PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (1881) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 31 МАЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*Канцэрт Дзяржаўнага хору радыёвяшчання і тэлебачання Беларусі.*

## КАЛІ АДГУЧАЛІ СТАРЫЯ ПЕСНІ

XI Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы запачаткавалі ў сераду 13 мая прамовы свецкіх і духоўных саноўнікаў. Першым слова ўзяў мітрапаліт варшаўскі і ўсёй Польшчы архіепіскап Васілій. Усё, што наплывае да нас з Захаду, між іншым сказаў ён, гэта адзін шум і стукатня. Вартасная і найсапраўдная музыка — гэта старыя спевы. Такім чынам Яго Праасвяшчэнства намякнуў, што рок-н-рола ў саборы Святой Тройцы гайнаўская публіка не пачуе. Віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягелла звярнуў увагу, што Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы — доказ кантактаў паміж свабоднай Польшчай і свабоднай Беларуссю. Дзякуючы гэтым кантактам могуць адбывацца фестывалі польскай музыкі ў Беларусі і беларускай у Польшчы. На ўрачыстасці адкрыцця Фестывалю выступалі яшчэ віцэ-ваявода Аляксандр Усакевіч і бурмістр Гайнаўкі Мечыслаў Гмітэр.

13 мая ў саборы Святой Тройцы выступіў з канцэртам лаўрэат X Фестывалю царкоўнай музыкі (1-ае месца ў катэгорыі свецкіх прафесіянальных хораў) Дзяржаўны хор радыёвяшчання і тэлебачання Беларусі пад кіраўніцтвам праф. Віктара Роўды. Затым у чацвер, пятніцу і суботу (14, 15 і 16 мая) праходзіў конкурс. Выступіла ў ім дваццаць хораў з Польшчы і замежжа (праграма Фестывалю прадугледжвала 21 выступленне). Варта ў гэтым месцы назваць хоры, якія прыехалі ў Гайнаўку з замежжа. У чацвер (першы дзень конкурсу) выступіў хор Праваслаўнага сабора св. Аляксандра Неўскага з Пружан (Беларусь). У пятніцу: хор Менскай духоўнай семінарыі пры Жыровіцкім манастыры з Жыровіч (Беларусь), хор Пачаеўскай лаўры з Пачаева (Украіна), хор Кіева-Пячэрскай лаўры з Кіева (Украіны), хор Рэспубліканскага палаца культуры прафсаюзаў з Менска (Беларусь) і хор Румынскага патрыярхату з Бухарэста. У суботу: Маладзёжны камерны хор усходнеславянскай музыкі з Сафіі (Балгарыя), Камерны хор царкоўнай музыкі „Дойлідства" з Гродна (Беларусь) і Дзяржаўная капэла імя М.І. Глінкі з Санкт-Пецярбурга (Расея). У суботу меў яшчэ выступіць Калектыў расейскай духоўнай музыкі „Благавест" з Масквы, але выйшлі нейкія незалежныя ад арганізатараў фестывалю акалічнасці і хор на конкурс не даехаў (выступіў затое ў Беластоку — А.М.).

Уражвае тэхнічны бок правядзення сёлетняга Фестывалю царкоўнай музыкі. Выступіла ў ім болей хораў, чымсьці на юбілейным дзесятым. Упершыню арганізатары на час Фестывалю паставілі ў саборы Св. Тройцы крэслы — публіка, як і на кожным іншым канцэрце класічнай музыкі, магла сядзець (месцаў хапіла далёка не ўсім). Праз год, на XII Фестывалі, будуць праўдападобна дазволены ўжо воплескі, бо дагэтуль атмасфера фестывалю нагадвае больш дамавіну, чымсьці канцэртную залу. Нельга тут не ўспомніць пра тое, што слухачы ў часе фестывалю маглі набыць касеты з запісамі найлепшых выканаўцаў (пра змест касеты вырашала журы. У нядзелю 17 мая з'явілася чацвертая касета, якая была запісам апошняга дня конкурсу. Дазволю тут сабе на асабістую заўвагу. У праграме фестывалю павінна ў будучыні знайсціся прэсавая канферэнцыя з арганізатарамі, дырыжорамі хораў і сябрамі журы. Здабываць інфармацыю пра Фестываль царкоўнай музыкі — не такая ўжо простая справа. Найчасцей зусім немагчыма „ўкрасці" пару хвілін часу на размову з, скажам, старшынёю журы. У гэтым годзе, так

*працяг на стар. 6*

## АГОНЬ У ЦАРКВЕ

Пра пажар у царкве Усіх Святых у Беластоку я прачытаў у „Газеце Выборчай". Калі пазваніў айцу Аляксандру Хіліманюку, ён ужо быў парадкам змучаны і выматаны шматлікімі размовамі і тлумачэннямі. Але расказаў яшчэ раз.

У суботу (16 мая) бацюшка, які зайшоў у царкву недзе перад сёмай, убачыў дым. Гарэла столь, знутры, і асыпалася на падлогу, на прастол і алтар. Пажарная каманда з'явілася адразу пасля паведамлення. Пасля дзвюх-трох хвілін агонь быў патушаны. Тым разам большая бяда не здарылася — царква наогул засталася, хоць патрэбны будзе салідны рамонт, коштам недзе ў 200 мільёнаў.

Прычына агню ў царкве не высветленая. Царква, па ўсіх прыкметах, загарэлася знутры. Згарэла значная частка столі і ўспоркі даху. Згарэла плашчаніца на прастоле, царкоўныя ўборы, часткова знішчаны іканастас.

Ад поўнага знішчэння святыню ўратавала, мабыць, тое, што ў яе не было доступу свежаму паветру, хоць быў там і вентыляцыйны комін. Ён быў нечым запханы. Прытым, столь была ўжо даволі трухлявая, і агонь у царкве не палыхаў, а адно тлеўся.

Выясненне ўсіх акалічнасцяў пажару ўзяў у свае рукі пракурор.

**Я.М.**




**РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ**
**Частка XVII**

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Абездухаўленне беларускага народа вядзе яго ў кірунку смерці. Аднак якраз сёння, пасля ўпадку Савецкага Саюза ўзнікаюць магчымасці адраджэння беларускай духоўнасці. Калі беларусы не выкарыстаюць гэты шанц, могуць згінуць як нацыя. Зусім магчыма, што ўжо болей гісторыя не створыць так спрыяльных умоў для беларускага рэнесансу. Адным з яго праяваў павінна стаць рэлігія, а дакладней рэлігіі, бо я не ўяўляю, каб можна было і трэба было зводзіць усіх беларусаў да аднаго веравызнання. Паводле мяне ўсе рэлігіі, якія аўтаномна будуць развівацца на Беларусі, мусяць мець на сваіх харугвах бела-чырвона-белыя элементы беларускага нацыянальнага колеру.

Сталінізм і постсталінізм нанеслі па рэлігіях на Беларусі страшэнныя ўдары. Сведчыць аб гэтым найлепш статыстыка. Вось страшэнныя факты. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі было 4500 цэркваў. У дваццатыя і асабліва ў трыццатыя гады ў выніку антыцаркоўнага тэрору было ліквідавана болей чым 4200 цэркваў. Многія з іх былі ўзарваны і такім чынам назаўсёды сцёрты з твару зямлі, многія перабудаваны і дастасаваны да „культурных" ці гаспадарчых мэт. І так у 1940 годзе ў Беларусі дзейнічала менеш чым трыста цэркваў!

Калі немцы занялі Беларусь, пачало павольна адроджвацца рэлігійнае жыццё і пачалі ўзнікаць цэрквы. Зразумела, што немцы не памагалі цэрквам і прыходам, але, у адрозненне ад саветаў, іх не нішчылі і не праследавалі. Дзякуючы гэтаму, нягледзячы на выключнае ўбоства беларускага грамадства, узніклі варункі да адкрыцця новых цэркваў. У выніку актыўнай паставы вернікаў і духавенства ў час акупацыі колькасць адкрытых цэркваў дайшла да 1500. Бачу ў гэтым страшэнную недарэчнасць: вораг беларускага народа Гітлер не нішчыў беларускіх святыняў, так як рабіў гэта „заступнік і абаронца" беларускага народа — Сталін!

Пасля вайны савецкая ўлада вярнулася да перадваеннай практыкі — ліквідацыі цэркваў. У часе гэтай злачыннай акцыі былі нярэдка нішчаны храмы непаўторнага характва і вялікай гістарычнай каштоўнасці. У даволі хуткім часе колькасць цэркваў на Беларусі ізноў упала да менеш чым трыста. Гэта значыць, што на адну царкву прыпадала многа дзесяткаў тысяч душ. Нічога затым дзіўнага, што людзі вазілі хрысціць свае дзеці па 40—50 кіламетраў, а то і далей. Зразумела, што ў большасці выпадкаў дзяцей не хрысцілі ўвогуле, тым болей, што хрышчэнне было свайго роду кляймом, якое абніжала каштоўнасць чалавека, рабіла яго „неблагонадёжным".

Сёння рэлігійнае жыццё на Беларусі памаленьку адраджаецца. Ёсць надзея, што пад канец бягучага года колькаць цэркваў наблізіцца да адной тысячы.

І зноў на заканчэнне прагну вярнуцца да таго, што для мяне было найважнейшым у публіцыстычным цыкле „Рэлігійныя дылемы", а менавіта да беларускай нацыянальнай свядомасці. Рэлігіі на Беларусі не могуць быць касмапалітычнымі, а тым болей чужанацыянальнымі. Час „польскага" і „рускага" веравызнання на Беларусі мусіць скончыцца і гадзіннікі гісторыі мусяць пачаць адлічваць гадзіны новага нацыянальнага часу. Усе вернікі на Беларусі павінны з аднолькавай гордасцю і гонарам не толькі гаварыць: я праваслаўны, я каталік, я уніят, я баптыст, але заяўляць: я беларус-праваслаўны, я беларус-каталік , я беларус-уніят, я беларус-баптыст. Разам з гэтым павінна ўвайсці ва ўсе беларускія святыні назаўсёды беларуская мова як найбольш каштоўны і вечны атрыбут здаровага існавання незалежнай нацыі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

---




**Прэзідэнт РП Лех Валэнса** прабываў з афіцыйным візітам у Маскве па запрашэнні прэзідэнта Расіі **Барыса Ельцына**. Падчас візіту абодва прэзідэнты падпісалі „Трактат аб добрым суседстве, дружных адносінах і супрацоўніцтве".

**Прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук** нанёс афіцыйны візіт у Польшчу. Вынікам гэтага візіту было падпісанне „Трактата аб добрым суседстве, дружных адносінах і супрацоўніцтве".

Высокапастаўлены чыноўнік амерыканскай адміністрацыі выказаў спадзяванне, што краіны СНД, якія маюць ядзерную зброю: **Украіна, Беларусь, Расія і Казахстан**, будуць прытрымоўвацца прынцыпаў пагадненняў аб рэдукцыі ўзбраенняў, заключаных у рамках дагавора START. Фармальным гэтага прызнакам з'яўляецца падпісанне чатырма рэспублікамі былога СССР пагаднення, якое гарантуе выкананне імі пастаноў дагавора.

**„Няма праблемы польскай меншасці**, ёсць толькі праблема мясцовых польскіх палітыкаў у Літве, якія выказваюць сваю незадаволенасць, — сказаў старшыня Вярхоўнага Савета Літвы Вітаўтас Ландсбергіс на ўрачыстасці ўручэння першай музычнай Нобелеўскай прэміі ў Стакгольме. — Польскае грамадства, якое галоўным чынам выводзіцца з вёсак, задаволенае сваёй сітуацыяй і фактам ажыццяўлення працэсу рэпрыватызацыі зямлі, а таксама з доступу да польскіх школ, газет, радыё, тэлебачання і польскамоўных набажэнстваў".

У Варшаве была падпісана **польска-беларуская дамова** наконт супрацоўніцтва ў ахове натуральнага асяроддзя. Прадбачвае яна стварэнне супольных ахоўных зон, у тым ліку Пушчы Белавежскай, даліны Буга, аднаўленне водных шляхоў на Аўгустаўскім і Каралеўскім каналах, а таксама ахову ракі Буг.

У Варшаве адбыўся **XXXVII Міжнародны кніжны кірмаш**. У сёлетнім аглядзе выдавецкай прадукцыі ўдзельнічала дзевяцьсот фірмаў з дваццаці краінаў. Кірмаш традыцыйна праходзіў у Палацы культуры і навукі.

**Палякі** будуць магчы працаваць легальна пры збіранні вінаграду і іншых фруктаў у французскіх фермераў. Прадбачвае гэта пагадненне аб сезоннай працы польскіх рабочых у французскіх працадаўцаў, якое было нядаўна падпісана ў Варшаве прадстаўнікамі ўрадаў Польшчы і Францыі. Пасол Францыі ў Польшчы мяркуе, што летам на работу ў французскія вінаграднікі выедзе каля васьмі тысяч польскіх грамадзян.

**Дэлегацыя авіяцыйнай фірмы з Гродна** прабывала з візітам у Беластоцкім аэраклубе. Была падпісана дамова аб супольнай дзейнасці, якая прадбачвае наладжанне паветранай камунікацыі паміж Беластокам і Гроднам яшчэ ў чэрвені г.г.

**„Bial'92"** — першая беластоцкая сустрэча бізнесменаў Польшчы і Беларусі адбудзецца ў пачатку чэрвеня ў гасцініцы „Лясная" ў Беластоку. Тэма сустрэчы: „Метал і дрэва — прапанова для прамысловасці і гандлю".

**У рамках Сямяціцкіх дзён культуры** (5—7 чэрвень 1992 г.) у Сямяцічах і Мельніку адбудзецца агляд польскіх аматарскіх калектываў з Літвы і Беларусі. Мерапрыемства называецца „Прэзентацыя культуры польскіх крэсаў".

**Каля вёскі Турна Малая** (5 кіламетраў на поўдзень ад Сямяціч) згарэла дзевяць гектараў пятнаццацігадовага лесу вартасцю ў 400 мільёнаў злотых.




* Ушанаванне ахвяраў вайны ў Паўлах.
* Помнікі культуры - царква ў Саках.
* На літстаронцы: паэзія А. Барскага, М. Лукшы, У. Гайдука і проза С. Яновіча.
* Ці ўсе дзеці нашы?

# ЗВАРОТ ГДАНЬСКАГА АДДЗЕЛА БГКТ

**Рада беларускіх арганізацый у Беластоку**

Праўленне Аддзела БГКТ у Гданьску звяртаецца да Рады беларускіх арганізацый з просьбай дамагацца перад уладамі Рэчыпаспалітай Польскай утварыць інстытуцыянальныя формы дзейнасці беларускай меншасці ў Польшчы. Утварэнне дзяржаўных беларускіх устаноў у сучасны перыяд застаецца неабходным, каб захаваць і развіваць беларускую культуру.

Як аказваецца, немагчыма гэта пры цяперашняй форме грамадскіх арганізацый, на дзейнасць якіх дзяржава дазваляе, але не дае грошай на пастаянныя формы працы, толькі на канкрэтныя мерапрыемствы. Такія адносіны хутка давядуць да заняпаду грамадскіх арганізацый, што адначасова прывядзе да заняпаду ў нашым выпадку беларускай дзейнасці па празаічных прычынах. Мы, як грамадскія арганізацыі не зможам утрымаць памяшканняў са сваіх сродкаў — а так вынікае з сучаснага польскага права. Калі адказацца ад памяшканняў, дык якая ж можа быць дзейнасць?

Апошнім часам мы, беларусы ў Гданьску, асабліва гэтым дасведчаныя. Калі даведаліся, што Галоўнае праўленне БГКТ адказалася ад памяшкання ў Гданьску, пачалі шукаць новае на сваю руку — выкарыстоўваючы мясцовыя ўлады: самаўрадавую і ўрадавую адміністрацыю. Памяшканне мабыць і ўдасца атрымаць — тут усе прыхільныя — толькі аплачваць яго прыдзецца са сваёй кішэні. Колькі знойдзецца беларусаў добрахвотна даючых грошы цяжка здабытыя на жыццё? Існуе тады пагроза натуральнага заняпаду беларускай культуры і тоеснасці ў нашым асяроддзі.

Калі хочам гэта захаваць, трэба дамагацца, каб паўсталі дзяржаўныя установы такія як: Цэнтр беларускай культуры ў Беластоку, Беларускі навуковы інстытут, ды іншыя. Паколькі на Беласточчыне жывуць карэнныя беларусы і плацяць падаткі польскай дзяржаве — няхай дзяржава дазволіць мець установы, бо вядома, што на голым энтузіязме культуры не збудуеш. Тут патрэбны нашыя намаганні і перакананне ўладаў у неабходнасці стварыць інстытуцыянальныя рамкі для існавання і развіцця культуры нацыянальнай меншасці. Для гэтага, каб існавалі беларусы ў Гданьску, патрэбная была б філія такой культурнай установы са штатным працаўнікам. У культурных кантактах Гданьскага ваяводства з Рэспублікай Беларусь мы маглі б служыць сваім пасрэдніцтвам, — а так хто з нас у капіталістычных умовах жыцця захоча і знойдзе час, каб развіваць беларускую культуру.

Пры гэтых намаганнях мы не бачым іншай лакалізацыі для Беларускага цэнтра у Беластоку. Пасля дасведчанняў, звязаных з падарожжамі ў Бельск-Падляшскі і Гайнаўку на дзіцячыя конкурсы, мы думаем, што цэнтр не можа знаходзіцца ў іншых мясцовасцях з увагі на тое, што Беласток мае цэнтральнае палажэнне ( лягчэйшы даезд камунікацыяй і тэлефанічны кантакт). Апрача гэтага, Беласток з'яўляецца асяродкам ваяводскіх улад — урадавай адміністрацыі. Таксама там знаходзіцца багаты патэнцыял беларускай інтэлігенцыі.

Яшчэ раз просім узяць пад увагу нашыя прапановы. Нам здаецца, што гэта адзіны магчымы выхад, каб беспярапынна развіваць беларускую культуру.

**Праўленне Аддзела БГКТ**

**Гданьск, 02.05.1992 г.**

*ЛАРЫСА ГЕНІЮШ*

**Я — НЕ САМА**

*Я-ж не сама, красуюцца галіны,*
*золата лісьцяў сыплюць незнарок:*
*я не сама, на небе шнур птушыны*
*насустрач мроям выляцеў здалёк.*

*І вабіць у далі да магутных узьлётаў у*
*паднебны край, гдзе крыўд няма і зла.*
*Я не сама, паходняю ля плоту*
*у асеньні дзень юргіня зацьвіла.*

*І сонца глянула, прабіўшыся праз*
*хмары,*
*каб даказаць, што сьвет яго не згас,*
*на холад рук рабіна дробнім жарам*
*рассыпала асеньніх жменю крас.*

*Я не сама, бо вецер лісьць асеньні*
*узорнай тканьню сьцеле на зямлі,*
*і гне трысьцё, і пражай-павуценьнем*
*снуе ля ног сухія бадылі.*

*А калі ночы не запаляць зораў,*
*і ўдарыць сьцюжай лютая зіма,*
*і віхры ў полі загалосяць горам,*
*усе-ж буду плакаць з імі не сама.*

**З кніжкі „Вершы, Рукапісны зборнік з 1945 - 47 г.г.“**

# ВЫДАННЕ НЕВЯДОМЫХ ВЕРШАЎ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Нядаўна Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане выдала зборнік вершаў Ларысы Геніюш, дагэтуль нідзе не публікаваных. Зборнік адрэдагаваў і папярэдзіў уступам прафесар-беларусавед Арнальд Мак-Мілін з Лонданскага універсітэта.

Як можна даведацца з уступу, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане атрымала рукапісны зборнік паэткі ў 1988 годзе (акалічнасці, у якіх той зборнік быў перададзены, не высвятляюцца). У зборніку змешчаны 41 верш з 1945—47 г.г. значыць, з „пражскага перыяду“ Ларысы Геніюш (у 1948 г. яна была арыштавана і перададзена саветам, і апынулася ў сібірскіх канцэнтрацыйных лагерах).

Рукапіс паэткі, як адзначае рэдактар, быў даволі неразборлівы, і трэба было прыкласці шмат намаганняў, каб яго расчытаць. Дадатковае ўскладненне стварала мова паэткі — Ларыса Геніюш шчодра карысталася гродзенскім дыялектным варыянтам беларушчыны ў сваіх вершах. Усе гэтыя моўныя асаблівасці, наколькі гэта было магчыма, засталіся захаванымі ў лонданскім выданні. Былі ўнесены некаторыя папраўкі да арфаграфіі паэткі (паводле Тарашкевіча), якой яна карысталася не заўсёды паслядоўна.

Лонданскае выданне трэба вітаць як надзвычай істотны крок на шляху да апублікавання поўнай паэтычнай спадчыны Ларысы Геніюш; спадчына тая ўсё яшчэ папаўняецца і будзе папаўняцца новымі творамі, расцярушанымі па прыватных ці паўпрыватных „архівах“ (зборнік невядомых твораў Ларысы Геніюш рыхтуе да друку таксама наша „Белавежа“).

**Я.М.**

---

**Ларыса Геніюш, Вершы, Рукапісны зборнік з 1945—47 г.г. Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны, Лёндан 1992.**

# ЯШЧЭ АБ СУСТРЭЧЫ З ПРЭМ'ЕРАМ КЕБІЧАМ

23 красавіка 1992 г. дэлегацыя Рэспублікі Беларусь сустрэлася ў Варшаве з прадстаўнікамі беларускіх асяроддзяў у Польшчы.

На прапанову прэм'ера пазнаёміць яго з праблемамі беларускай меншасці ў Польшчы, **А. Баршчэўскі** пацвердзіў факт паляпшэння ўзаемных кантактаў розных палітычных груповак беларусаў у Польшчы з адпаведнымі асяроддзямі на Бацькаўшчыне. Да важнейшых праблемаў беларусаў у Польшчы прамоўца залічыў:

— недахоп беларускамоўных, адпаведна падрыхтаваных настаўнікаў, адсутнасць падручнікаў і дзіцячай літаратуры, неабходных для адраджэння беларускага школьніцтва,

— пагрозу заняпаду народнай культуры Беласточчыны ў сувязі з адмовай польскай дзяржавай датацыяў на культурную дзейнасць, м. інш. на фестываль песні,

— неабходнасць узмацнення беларускага фактара на Беласточчыне, м. інш. стварэнне беларускага консульства, у сітуацыі нарастання ўкраінскай прапаганды ў рэгіёне этнічнага пагранічча,

— неабходнасць непасрэдных кантактаў з Беларуссю праз стварэнне дадатковых прапускных пагранічных пунктаў,

— падтрымку пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы (за атрыманую ўжо дапамогу прамоўца падзякаваў кіраўніцтву Рэспублікі),

— немагчымасць утрымання базы беларускіх клубаў у выніку павышэння кватэрнай платы.

Звярнуў ён пры тым увагу на мэтазгоднасць стварэння магчымасці беларускім пісьменнікам у Польшчы быць членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі і карыстацца там выдавецкай базай.

**Яўген Чыквін** звярнуў увагу на значэнне Праваслаўнай царквы для беларускай нацыянальнай меншасці ў абставінах апалячвання католікаў і зраўнання паняццяў католік і паляк. Падкрэсліў важнасць праблемы звароту Праваслаўнай царкве манастырскага аб'екта ў Супраслі. Дадаў пры тым, што ў абставінах фінансавых цяжкасцяў, меншасці не могуць спадзявацца на фінансавую дапамогу дзяржавы. У доказ гэтаму падаў прыклад прызнання польскім урадам 100 мільярдаў злотых на патрэбы польскай меншасці за граніцай і толькі 2 мільярды 500 мільёнаў — на патрэбы ўсіх нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Калі ўзяць яшчэ пад увагу эканамічнае занядбанне Беласточчыны, то становіцца ясная неабходнасць прыярытэту Падляшша так у культурных, як і ў эканамічных кантактах з Рэспублікай Беларусь.

**Алег Латышонак** заўважыў, што ў сучасных абставінах дзейнічаюць безумоўна і разбуральныя працэсы, але ім супрацьдзеючая маладыя сілы, якія не аглядаюцца на дапамогу. Для іх важна, каб расла Беларусь, тады і адносіны між людзьмі будуць іншыя.

**Валянцін Сельвясюк** звярнуў увагу на ўстарэласць гаспадарчай інфраструктуры на гранічных прапускных пунктах, што вельмі

*працяг на стар. 4*

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЗАПАС СПАТРЭБІЎСЯ ЯКРАЗ

Цэнтральная выбарчая камісія нарэшце скончыла праверку на сапраўднасць 442 тысячаў подпісаў у падтрымку правядзення на Беларусі рэферэндуму аб адстаўцы Вярхоўнага Савета рэспублікі. Дасканала вывучыўшы кожны падпісаны ліст, камісія па розных прычынах забракавала ажно 58 тысячаў подпісаў. Аднак і прызнаных сапраўднымі 384 тысячаў подпісаў нават больш чым дастаткова для склікання рэферэндуму. Праўда, Вярхоўны Савет рэспублікі пакуль што не спяшаецца прызначыць дату правядзення рэферэндуму. Магчыма, адчуваючы, што гэта будзе пачаткам яго канца.

### БУДЗЕМ ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ

У рэспубліцы ствараецца Цэнтр бяспекі інфармацыі. Яго мэта — абараніць беларускі банк інфармацыі ад шпіёнаў „блізкага“ і „далёкага“ замежжа. У рабоце па стварэнню Цэнтра прымаюць удзел кампетэнтныя людзі з Міністэрства абароны Беларусі і Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

### ПРЫВЁЗ НАМ ГРОШЫ ДЗЯДЗЬКА БАГАТЫ

Днямі Беларусь наведаў прадстаўнік Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) спадар Мюрэй. Ён паведаміў, што МВФ выдзеліў рэспубліцы льготны крэдыт на суму 187 мільёнаў разліковых грашовых адзінак Фонду — СПЗ (спецыяльныя правы запазычанасці). Грошы гэтыя будуць выдзяляцца толькі пад канкрэтныя ўрадавыя праграмы, якія вытрымалі экспертызу спецыялістаў МВФ.

### ЗА СЯБЕ І ЗА СВАІХ КЛІЕНТАЎ

Чарговая акцыя пратэсту адбылася на мінулым тыдні ў Менску на плошчы Незалежнасці, насупраць Дома ўрада. На гэты раз тут сабраліся менскія таксісты. Адметна, што адной з галоўных прычын гэтага папераджальнага страйку стала нядаўняе павышэнне цэнаў на паслугі таксі. А гэта ў сваю чаргу прывяло да рэзкага скарачэння колькасці жадаючых праехаць на „маторы“. Калі справы пойдуць так і далей, шмат таксістаў могуць застацца без працы.

### САБЕ ЎЗЯЛІ Б І АСТАТНІХ НЕ АБДЗЯЛІЛІ Б

Абавязкова з'ехала б з глузду тая сарока, якая замест кашы адважылася б разам з адміністрацыяй Менскага аўтазавода і консультантамі Інстытута эканомікі Акадэміі навук РБ дзяліць гэтае буйнейшае на Беларусі прадпрыемства. На думку вучоных, уступленне на адзіна верны шлях — стварэнне акцыянернага таварыства — патрабуе вырашэння многіх задач, да якіх на МАЗе яшчэ не прыступілі. І ўсё ж, паводле папярэдніх разлікаў, працаўнікі МАЗа могуць атрымаць бясплатна 30 працэнтаў акцый. Каля 15 працэнтаў рэкамендуецца перадаць прадпрыемствам-партнёрам, 20 — у распараджэн- не дзяржавы, і яшчэ 20 — замежным інвестарам, калі такія знойдуцца.

### ВЯСКОВЫ БУНТ

Незадаволеныя цэнавай палітыкай дзяржавы ў адносінах да вёскі старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў Баранавіцкага раёна, што ў Брэсцкай вобласці, накіравалі ўраду рэспублікі ультыматум. Вясковы стачком мае намер аб'явіць забастоўку, якая, калі яе падтрымаюць працаўнікі палёў і фермаў па ўсёй Беларусі, прымусіць жыхароў рэспублікі распачаць доўгатэрміновую галадоўку — будуць спынены пастаўкі малака, мяса і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі.

Урад адказвае пакуль маўчаннем на ўсе патрабаванні.

### БЫЛОЕ І ТРУБЫ

Урад Беларусі вырашыў зноў вярнуцца да славутага лозунга застойных часоў „Эканоміка павінна быць эканомнай“. Нядаўна Савет Міністраў рэспублікі аддаў загад міністэрствам і ведамствам скараціць расходванне трубаў, і ў першую чаргу сталёвых, не менш чым на дваццаць працэнтаў. Вось толькі ці дойдзе да кватэр жыхароў рэспублікі вада альбо газавае паліва, калі паслухмяныя чыноўнікі, успомніўшы яшчэ адну застойную традыцыю, не толькі выканаюць, але і перавыканаюць дадзены план?

### ТЫ — МНЕ, Я — ТАБЕ

На прэс-канферэнцыі С. Шушкевіча і В. Кебіча па выніках ташкенцкай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў — членаў СНД прэм'ер-міністр заўважыў між іншым, што запазычанасць Расіі амаль усім рэспублікам былога Саюза складае каля 400 мільярдаў рублёў, у тым ліку Беларусі — 25 мільярдаў (у той час, калі мы павінны ёй толькі 7 мільярдаў рублёў).

І яшчэ. Прэм'ер-міністрамі Расіі і Беларусі падпісаны дагавор аб пастаўцы ў нашу рэспубліку нафты па цане каля 2600 рублёў за тону, які дазволіў Вячаславу Кебічу запэўніць журналістаў у тым, што такая цана рэспубліцы па сілах і таму ўрад спадзяецца больш не звяртацца да абвальнага павышэння цэнаў на ўсе віды тавараў і паслуг.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ЯШЧЭ АБ СУСТРЭЧЫ З ПРЭМ'ЕРАМ КЕБІЧАМ

*працяг са стар. 3*

перашкаджае ў гаспадарчых кантактах з Беларуссю.

**Янка Жамойцін** палічыў неабходным наладжанне кантактаў між беларускай моладдзю, асабліва студэнцкай, Беларусі і Беласточчыны, супольнае арганізаванне навуковых і культурных мерапрыемстваў, што падзейнічае на збліжэнне людзей маладога пакалення.

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь **Пётр Краўчанка** паінфармаваў аб узгадненнях адносна адкрыцця двух новых кантрольна-прапускных пунктаў для польскіх і беларускіх грамадзян. Адносна дапамогі школам, заявіў ён, што будзе браны пад увагу прынцып парытэту, які ў галіне абмену настаўнікамі польскай мовы на Беларусі і беларускай мовы ў школах Беласточчыны маецца як 100 : 20 і з'яўляецца пакуль што некарысным. Звярнуў ён таксама ўвагу на неабходнасць знайсці арганізацыю, якая б занялася справамі запатрабавання на культурныя пачынанні беларускай меншасці ў Польшчы, у тым ліку і на падручнікі, дзіцячую літаратуру, касцюмы для мастацкіх калектываў і т.д., а прэм'р РБ незалежна ад гаспадарчых цяжкасцяў знойдзе магчымасць іх фінансавання. Справа Супраслі, — дадаў — таксама разглядаецца ў кантактах з польскім урадам.

Прэм'ер РБ **Вячаслаў Кебіч** дэкляраваў, м. інш. далейшую дапамогу ў будове музея і наладжання ўмоваў друку для нашых пісьменнікаў.

Незалежна ад таго, паінфармаваў ён аб дамоўленасцях з польскім урадам на тэму доступу Беларусі да гданьскага порта, ад чаго, м. інш. будзе залежаць адкрыццё новых і ўдасканаленне працы існуючых да гэтай пары прапускных гранічных пунктаў, згадаў аб банкавых пагадненнях з Польшчай, аб магчымасці доступу да Балтыйскага мора цераз Літву ды аб удзеле Беларусі ў планаванай будове аўтастрады Берлін—Масква праз Беларусь.

На заканчэнне Вячаслаў Кебіч паінфармаваў аб конкурсе на беларускі дзяржаўны гімн і заявіў аб назначэнні Уладзіміра Сянько charge d'affaires Рэспублікі Беларусь у Варшаве.

Запісаў **ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

*Заўвага: пададзены мною выказванні ўдзельнікаў спаткання не аўтарызаваны.*

---

З друку

**У МЗС БЕЛАРУСІ**

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка прыняў генеральнага консула Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Э. Смулак. Адбылася гутарка, у ходзе якой кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства спыніўся на некаторых выніках нядаўняга афіцыяльнага візіту ўрадавай дэлегацыі РБ у Польшчы. Абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з адкрыццём беларускага пасольства ў Варшаве і абменам консульскімі ўстановамі, якія будуць знаходзіцца ў Гродна і Гдыні адпаведна.

Акрамя таго, субяседнікі закранулі праблемы нацыянальных меншасцей — беларускай у Польшчы і польскай у Беларусі, узаемнага вяртання культурных каштоўнасцей.

У заключэнне гутаркі П. Краўчанка перадаў Э. Смулак віншаванне да нацыянальнага свята Польшчы.

*(„Звязда" ад 2 мая 1992 г.)*

# Фота-вітрына



**ВЯСКОВАЯ ДАРОГА**

*Фота Уладзіслава Завадскага.*

# БЕЗ ПРАЦЫ

На вуліцы Сураскай 1, у тым самым будынку, што і рэдакцыя „Нівы", знаходзіцца раённае бюро рэгістрацыі беспрацоўных. Штодня, калі я прыходжу на працу, у калідорчыку па другі бок невялікага хола ўжо чакае грамадка людзей. Каб зарэгістравацца і атрымаць „куранёўку" — засілак для беспрацоўных. Пераважна стаяць людзі маладыя.

На днях да мяне ў рэдакцыйны пакой зайшоў чалавек. У руках трымаў даўжэзныя жоўтыя паперы і гаварыў нешта для мяне няўцямнае — ні то яму пакоі пабльталіся, ні то шукаў кагось ці чагось, што дапаможа яму ў бядзе. Першым маім памкненнем было „сплавіць" чалавека— мауляў, у самога клопатаў па вушы, што мне да твайго лёсу. Але чалавек сеў і стаў распавядаць пра сваю справу. Я зразумеў: яму вельмі цяжка на душы і трэба перад кімсьці выгаварыцца. Нейкай помачы ад мяне ён не чакаў. Проста так, пагаварыць. Калі хочаце, можаце напісаць пра мяне ў сваёй газеце, казаў ён. Мне не трэба саромецца за сваё жыццё.

Называецца ён Казімеж В. і жыве ў Жэдні (Міхалоўская гміна). Ад 1984 года працаваў дрывасекам у надлясніцтве ў Жэдні. Маторнай пілой спускаў дрэвы ў пушчы. Працу страціў у лістападзе мінулага года. Пілу зашчаміла ў разрэзе і раструшчыла. На другую не хапіла ў яго грошай. Папрацаваў яшчэ крыху з сякерай, на расцяробах, але кіраўніцтва неўзабаве яго звольніла. Прычына — не працуе ў сваёй прафесіі (з пілой, значыць). Дарэмна шукаў нейкую іншую працу. Мінула шэсць месяцаў, і ён прыехаў у Беласток зарэгістравацца.

Сам ён з Сувальшчыны. Пераехаў на Беласточчыну восем гадоў таму. Ажаніўся з разводкай, у якой было трое дзяцей. Найстарэйшая дачка нядаўна выйшла замуж. Недзе ў яго родным наваколлі засталося „кавалерскае дзіця" — дачка, якой цяпер 12 гадоў. Ён плаціць аліменты — 300 тысяч у месяц. Але ўжо ад трох месяцаў няма чым плаціць. Дый сям'і ў Жэдні прыходзіцца тугавата.

У рэгістрацыйным бюро сказалі яму, што ён не кваліфікуецца да засілку. Павінен папрацаваць недзе 180 дзён, каб атрымаць засілак. Задоўгі быў перапынак у працы, значыць. Калі б я знайшоў тую працу, то не прыходзіў бы сюды, тлумачыў ён у бюро. Ягонай логікі не хацелі зразумець.

— Я не хачу браць дзяржаўныя грошы, — казаў ён ужо мне. — Я хачу працы. Навошта мне быць на дзяржаўным утрыманні? Я працаваў ад 16-ці гадоў. А цяпер што? Раптам чалавек нікому не патрэбны?

Ён паказаў мне свае пасведчанні аб працы і іншыя дакументы. І незапісаны рэгістрацыйны бланк, з жоўтымі палоскамі. З гэтым бланкам, а не з засілкам, яму трэба было вяртацца ў Жэдню, да сям'і.

Нейкае такое заканчэнне, без маралі і высноваў.

**Я.М.**

# ПРА НАШЫХ ПІСАЛІ

*Увазе нашых чытачоў прапануем фрагмент інтэрв'ю Станіслава Ермаковіча з нашым шматгадовым карэспандэнтам і старшынёю Тэрытарыяльнай рады БДА ў Ольштыне АНДРЭЕМ ГАЎРЫЛЮКОМ. Размову надрукавала «Gazeta Olsztyńska» ад 13 мая 1992 г. пад загалоўкам «Nacjonalizm jest obcy naturze Białorusinów».*

**- Jak pokrótce scharakteryzowałby pan życie białoruskie w Polsce?**

- Zawsze je mile wspominam. Ludzie do siebie odnoszą się niezwykle życzliwie. Gdy ktoś do kogoś zwracał się o pomoc sąsiedzką, nie pamiętam, by został wykrętnie potraktowany, niezależnie czy był Białorusinem czy Polakiem. Nikt nikomu niczego nie podkradł, nawet jabłek z sadu. W odróżnieniu od codzienności w Olsztynie, gdzie każdy żyje własnym życiem i nikim nie interesuje się, ludzie odczuwają potrzebę wzajemnych kontaktów towarzyskich. Wieczorami schodzą się na pogawędki i do późna rozmawiają o polityce, starych obyczajach, przeżyciach wojennych. Kobiety śpiewają starodawne piosenki białoruskie.

**- Wydaje się, że to zbyt wyidealizowany sielankowy obraz. W miejscowościach, gdzie występują Białorusini, nie zauważyłem rzucających się w oczy różnic, poza widokiem cerkwi. Czy publicznie Białorusini jeszcze mówią po białorusku?**

- Teraz nie tylko starzy, lecz i młodzi. Słychać nasz język w autobusie, sklepie i innych miejscach publicznych. W Bielsku Podlaskim zdarza się, że i w restauracji biesiadnicy śpiewają po białorusku. Dawniej uciszano straszeniem milicją.Dzisiaj przestały przeszkadzać zwyczaje białoruskie. Odrodzenie języka i narodowej tradycji uwidacznia się wszędzie. Białoruskie licea w Bielsku Podlaskim i Hajnówce cieszą się dużym wzięciem nawet wśród Polaków, którzy doceniają wysoki poziom nauczania. Trwa też krzątanina, zmierzająca do ponownego otwarcia muzeum białoruskiego w Hajnówce i odzyskania eksponatów, wywiezionych do Ciechanowca. Wśród nich znajduje się i mój zbiór etnograficzny, ofiarowany muzeum przed pięciu laty. O wydawniczych, literackich i artystycznych inicjatywach chyba nie trzeba wspominać. Były i są one widoczne.

**- Czy w odczuciu pana Białorusini w Polsce i Polacy na Białorusi są zwiastunami przyszłych konfliktów, czy też raczej budowania pomostów zrozumienia między obu krajami?**

- Mocno wierzę, że staniemy się żywymi pomostami zbliżenia kulturalnego i gospodarczego z obopólną korzyścią. Już kontakty ekonomiczne z Białorusią sprzyjają ożywieniu "ściany wschodniej", zaliczanej do Polski B. Natomiast Białoruś, wchodząc w system wolnorynkowy, zapewne będzie musiała sięgać i po doświadczenia gospodarki polskiej.

**- Skąd Białorusini w Olsztyńskiem? Zazwyczaj słyszy się o mniejszości ukraińskiej...**

- W porównaniu z Ukraińcami jest nas na Warmii i Mazurach znacznie mniej. Ale trochę się uzbiera. Wywodzimy się przeważnie z Białostocczyzny, rzadziej - z Białorusi. I tylko nieliczni z nas utrzymują kontakty ze sobą, uczestniczą w życiu białoruskim. Myślę, że obecność BZD na tym terenie przyczyni się do wzrostu troski wśród Białorusinów o tożsamość narodową, język, kulturę i tradycje. Marzy mi się klub białoruski w Olsztynie, gdzie można byłoby spotkać się, sprowadzić na występy ciekawe zespoły białoruskie.

Rozmawiał
**Stanisław JERMAKOWICZ**

### XXXV. ПАКАЯННЕ

Вялікамучаніцкая смерць у імя Хрыста бязвінных Антонія, Іаана і Яўстафія ў Вільні ў 1347 годзе лягла цяжкай злачыннай плямай на сумленні вялікага князя Альгерда-Аляксандра. Яна таксама зняславіла яго ва ўсім тадышнім хрысціянскім свеце як злоснага і крыважэрнага адступніка ад веры Хрыстовай. Вялікі князь, усвядоміўшы ганебнасць свайго ўчынку, доўга шукаў апраўдання і супакаення душы.

Гэты стан выразна паўплываў на дзяржаўную палітыку, асабістыя паводзіны і адносіны Альгерда да Царквы. Ён раскайваўся ў сваім злачынстве і намагаўся выправіць яго, многа ўвагі прысвячаючы справам Праваслаўнай Царквы.

У 1350 г. Альгерд жэніцца з глыбокаверуючай праваслаўнай князёўнай цьвярскою Уллянай Аляксандраўнай, і ў яе асобе знаходзіць ахвярную памочніцу ў дзейнасці для дабра Царквы. Перш за ўсё князь і княгіня зрабілі шмат захадаў, каб надаць Праваслаўнай Царкве належнае значэнне ў дзяржаве, уладкаваць і ўзмоцніць духоўнае жыццё ў краіне. Дзеля гэтага яны стараюцца ў канстанцінопальскага патрыярха пра пастаўленне мітрапаліта Беларускай дзяржаве (Вялікаму княству Літоўскаму). Спачатку Альгерд і Улляна запрапанавалі на навагардскі мітраполічы пасад дзелавітага епіскапа полацкага Феадарыта, але з-за непрыхільных адносінаў з боку Масквы да адраджэння Беларускай мітраполіі гэта ім не ўдалося. Урэшце яны пераадольваюць націскі Масквы на канстанцінопальскі патрыярхат і ў 1354 годзе дабіваюцца пастаўлення ў мітрапаліта Рамана, які паходзіў з князёў цвярскіх. Разам з настаннем гэтага энергічнага архіпастыра духоўнае жыццё ў Беларускай дзяржаве, а тым самым і на землях цяперашняй Усходняй Беласточчыны, актывізавалася, паглыбілася, разгарнулася таксама царкоўнае будаўніцтва. У Вільні князь Альгерд узводзіць велічны Свята-Прачысценскі сабор, у які потым ён быў пахаваны. Гэтая святыня з таго часу стала месцам пахавання праваслаўных беларускіх князёў і княгіняў. Княгіня Улляна будуе ў Віцебску манастыр Нараджэння Гасподняга. За прыкладам вялікакняжацкай пары ідуць удзельныя князі, будуючы ў сваіх уладаннях цэрквы, манастыры, капліцы, парадкуюць маёмасныя і іншыя царкоўныя справы. Тады, між іншым, паўстаюць Барысаглебскі і Іаанапрадцечанскія манастыры каля Полацка, Пятніцкая царква ў Вільні і шэраг іншых святыняў.

На жаль, плённае пастырства мітрапаліта Рамана не трывала доўга. Ён памёр у 1362 г., і Альгерду з Уллянай зноў давялося пачаць доўгае, бо аж 12-гадовае, змаганне з Масквою за пастаўленне Беларусі новага мітрапаліта. Толькі ў 1375 г. на навагардскую кафедру ўзышоў мітрапаліт Кіпрыян.

## НАШЫ КАРАНІ

Клапоцячыся пра духоўнае жыццё ў Беларусі Альгерд-Аляксандр не забываў пра тое мноства праваслаўных, якія гібелі ў татарскай няволі. У 1362 г. ён наладзіў вялікі паход супраць Залатой Ардзе. „Альгерд не мог звярнуцца па дапамогу да Кейстута, — сцвярджае беларускі гісторык В. Чаропка. — Той якраз ваяваў з крыжакамі ля Коўна. Вялікі князь разлічваў на вайсковыя дружыны са сваіх зямель: Віцебскага і Менскага княстваў, Полаччыны, Палесся, Верхняга Панямоння (гістарычная Літва), Нальшан. У паход выступілі і Карыятавічы з навагардцамі. Як бачым, войска Альгердава цалкам складалася з тых, хто выступаў пад беларускімі харугвамі. На жаль, нельга ўстанавіць дакладную колькасць войска. Авалодаўшы Кіевам, Альгерд пасадзіў там замест татарскага памагатага князя Фёдара свайго сына Уладзіміра. З Кіева беларускае войска выступіла насустрач татара-манголам...” На рацэ Сіняя Вада (недалёка сённяшняга Кішынёва) Альгердава войска, якое складалі праваслаўныя воі, разграміла аграмадную армію Залатой Арды і канчаткова вызваліла аграмадныя абшары цяперашняй Паўднёвай Украіны і Расіі. Такім чынам граніцы Беларускай дзяржавы вялікі князь Альгерд-Аляксандр паставіў на ніжнім цячэнні Днястра, на беразе Чорнага мора і на ніжнім цячэнні ракі Дон. Гэта была велічная перамога Праваслаўя над Ісламам, трыумф. „Бітва каля Сіняй Вады, — заўважае той жа гісторык, — аб'ектыўна спрыяла вызваленчаму руху заняволеных народаў супраць татара-мангольскага ярма, натхніла рускі народ на перамогі ў бітвах на Вожы і Куліковым полі — было пакладзены пачатак разгрому мангольскай агрэсіі ў Еўропе”.

Легенды кажуць, што ў часы Альгерда ў Вільні з'явілася славутая цудатворная ікона Божай Маці (Астрабрамскай). Паводле аднаго падання яе прынёс князь Альгерд з прычарнаморскага горада Корсуні пасля перамогі ў 1362 г. на Сіняй Вадзе. Яна знаходзілася ў праваслаўнай капліцы над Вострай брамай і адтуль займела сваю назву. Другая легенда кажа, што цудоўная ікона з'явілася сама над віленскай Вострай брамай у 1341 г. Некаторыя гісторыкі пішуць, што калі ў 1829 г. яе рэстаўравалі, то адкрылі на ёй славянскі надпіс „Честнейшую херувимъ”.

Значыць, першапачаткова ікона Божай Маці Вострабрамскай была праваслаўнай святыняй. Зрэшты, інакш і быць не магло, бо ў часе яе з'яўлення ў Вільні вызнаўцамі каталіцызму былі лічаныя асобы.

Перад смерцю вялікі князь Альгерд-Аляксандр прыняў манаскі пострыг і імя Аляксей і цалкам аддаўся малітве і раскаянню. Памёр ён у 1377 годзе.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## ЦІ ХВОРЫМ САМІМ ЛЯЧЫЦЦА?

У вёсцы Клюковічы (гміна Нурэц-Станцыя) асяродак здароўя быў утвораны ў 1953 годзе. Спачатку размяшчаўся ён у прыватных хатах, затым у мураваным будынку пасля Грамадскай рады нарадовай (калі тую зліквідавалі). Працуе там ад самага пачатку фельчар Францішак Вільчэўскі, які ў Клюковічы прыехаў адразу пасля заканчэння Дзяржаўнай фельчарскай школы ў Інаўроцлаве і такім чынам з гэтай вёскай і ваколіцай звязаў ён далейшы свой лёс.

„Фельчар медыцыны Францішак Вільчэўскі беззаганна — рэагуе на кожную патрэбу ўдзень і ўначы — па сённяшні дзень абслугоўвае 14 вёсак: 9 з нурэцкай гміны, 2 з мельніцкай і 3 вёскі, аказіянальна, з чаромхаўскае (разам 2671 чалавек”. Такое пасведчанне свайму доктару выставілі пацыенты ў лісце да беластоцкага ваяводы. Гэтым лістом жыхары Клюковіч і навакольных вёсак запратэставалі супраць вырашэння дырэктара ЗОЗу (Zespołu Opieki Zdrowotnej) у Сямяцічах аб ліквідацыі клюковіцкага асяродка. З просьбай адобрыць сваё рашэнне дырэктар сямяціцкага ЗОЗу звярнуўся да войта гміны Нурэц-Станцыя 1 красавіка.

„Грамадскасць гэтай аколіцы — чытаем у лісце-пратэсце беластоцкаму ваяводу — просіць падрабязна разгледзець паспешны праект Пана Дырэктара і прыняць адпаведнае рашэнне ў гэтай справе (...). У Вясковым асяродку здароўя ў Клюковічах працуе фельчар, 2 медсястры і прыбіральшчыца. Да шпіталя і лекараў-спецыялістаў у Сямяцічах ад нашых мясцовасцяў 40 кіламетраў, да двух гмінных асяродкаў: у Нурцы-Станцы ды Мілейчыцах — па 20 кіламетраў, толькі ж сама да аптэкаў. Жыхарам вёсак Вілінава, Такары і Катэрка, якія ўжо 30 год належаць да асяродка ў Клюковічах, трэба будзе ездзіць 30 кіламетраў у Мельнік, пры чым, там вельмі дрэннае аўтобуснае спалучэнне.”

У пратэсце прыводзіцца нават статыстыка за апошнія гады, колькі асоб скарыстала там з медыцынскай дапамогі. Атрымліваецца так, што кожны год праз асяродак здароўя ў Клюковічах праходзіць звыш 6-ці тысяч хворых ( у 1991 — аж 7331 чалавек).

Пад пратэстам падпісаліся салтысы адзінаццаці вёсак: Клюковічы, Калёнія Клюковічы, Вычулкі, Літвінавічы, Тымянка, Вулька-Нурэцкая, Сяміхочы, Вэрпаль, Столбцы, Вілінава і Такары разам з Катэркаю. І хаця ў наш час усе прывыклі да розных пратэстаў ды ўлады перасталі звяртаць на іх увагу, гэты якраз даў рэзультат.

У пачатку мая з жыхарамі зацікаўленых вёсак спаткаліся: дырэктар сямяціцкага ЗОЗу, войт гміны Нурэц-Станцыя і прадстаўнік гмінных улад з Мельніка. Супольна вырашылі, што асяродак будзе захаваны. Людзі добраахвотна ападаткаваліся — будуць купляць „цаглінкі”, штомесяц па 10 тысяч злотых. Гміна абяцала дакупіць вугаль, сродкі для перавязак, тое-сёе з лякарстваў. І так неяк супольнымі сіламі будзе ўтрыманы будынак асяродка, у якім, апрача медычных памяшканняў, ёсць таксама адна кватэра. Цяпер жыве ў ёй фельчар Ф. Вільчэўскі, але яму няшмат ужо да пенсіі засталося. „Пасля мяне прыйдзе нехта новы, — лічыць ён, — галоўнае, каб людзі не засталіся без медыцынскай апекі”.

**М.В.**

**Фота аўтара**



*Клюковіцкі асяродак здароўя ў засені квітнеючых дрэў.*

### ЗУБ

Усё пачалося з таго, калі з раней вылечанага зуба выпала пломба. А здарылася гэта якраз тады, калі абое з жонкай збіраліся мы ісці на танцы. Што ж рабіць? Зуб баліць толькі мне, а жонка дамовілася на танцы з сябрамі і пайсці мусова. Не да забавы мне было. Усе навокал вясёла праводзяць час, гуляюць, а я з кілішкам гарэлкі ў руцэ і з мінай вампіра чакаю канца імпрэзы.

Наступны дзень пачаўся са шклянкі гарбаты і таблеткі „вераміду”. Зуб баліць штораз мацней. Ужо не памагаюць і дзве таблеткі. Абнадзейвае думка пра візіт у зубнога лекара. Чакаю, пакуль адкрыюць амбулаторыю.

Адкрылі. Стаю ў чарзе да рэгістрацыйнага ваконца. Рэгістратарка інфармуе, што да дантыста трэба наперад запісацца. Запісаць яна мяне можа толькі на панядзелак. А сёння ж чацвер!

Збалелы вяртаюся дахаты. Неяк прамучыўся да вечара. Ноччу пайшоў я да стаматалагічнай хуткай дапамогі. Там дантыстка прабуе даказаць мне, што гэты зуб не надаецца да далейшага лячэння і абавязкова трэба яго вырваць. Напамінае, што гэта не амбулаторыя, дзе лечаць зубы, а толькі хуткая дапамога, дзе зубы, як правіла, вырываюць. Не прымаю прапановы дантысткі і вяртаюся дамоў, каб правесці чарговую бяссонную ноч.

Няма ўжо ў мяне сілы далей разлічваць на гарантаванае дзяржавай мне, як пенсіянеру, бясплатнае лячэнне. Раніцай бяру грошы і іду да прыватнага дантыста. Там аказалася, што зуб ўратаваць можна. Ветлівы стаматолаг хуценька залажыў новую пломбу і пасля двух гадзін я і забыў пра гэты няшчасны зуб.

І вось, дзякуючы такому балючаму здарэнню спазнаў я ісціну капіталізму. Жывём мы ўсё ж яшчэ ў двух светах.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# КАЛІ АДГУЧАЛІ СТАРЫЯ ПЕСНІ

працяг са стар. 1

мне сказалі, было нешта накшталт прэс-канферэнцыі, але не было гэта адзначана ў праграме ды ведалі пра гэта ўсяго нешматлікія.

У нядзелю, пасля аб'яўлення вынікаў, нейк выпадкова ўдалося мне пагаварыць з праф. Рамуальдам Твардоўскім — старшынёю журы XI Фестывалю. На пытанне, якімі крытэрыямі журы ацэньвае хоры, праф. Твардоўскі адказаў, што ў выпадку гайнаўскага фестывалю не можа гэта быць крытэрый выключна артыстычны. Неаднойчы святары націскаюць, каб адзначыць той, ці іншы хор з увагі на ўмовы, у якіх той жа хор дзейнічае. Пры ацэнцы хораў часта даводзіцца пагаджаць з сабою непагаджальнае. Тым не менш, ад дзесяці гадоў журы нейк са шчытом выконвае абавязак прызнання ўзнагарод. На пытанне пра ўзровень сёлетняга Фестывалю царкоўнай музыкі, праф. Твардоўскі адказаў, што перавышае ён узровень нават юбілейнага выпуску. Наглядаецца аднак пэўная артыстычная аднастайнасць фестывалю. Ад дзесяці гадоў рэпертуар не выходзіць па-за кола музычнай літаратуры XIX стагоддзя. Дырыжоры не сягаюць далей — у XVII ці ў XVI стагоддзе. Зрэдку таксама з'яўляюцца на фестывалі творы кампазітараў нашага стагоддзя.

Журы XI Фестывылю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы прызнала наступныя месцы:

**— у катэгорыі прыхадскіх аматарскіх хораў:**

1. Хор пярэмышль-ска-навасандэцкай епархіі з Санока (дырыжор: а. Васіль Дубец).

2. Хор сабора Святой Тройцы ў Гайнаўцы (а. Міхал Негярэвіч) і хор сабора св. Аляксандра Неўскага з Пружан (Таццяна Матусевіч).

3. Маладзёжы хор прыхода Святога Духа ў Беластоку (Багдан Пура).

Вылучэнні: Маладзёжны хор прыхода Святой Тройцы ў Гайнаўцы (Дзмітры Ціханюк) і Хор душпастырства праваслаўнай моладзі пры кафедры св. Мікалая ў Беластоку (Аляксандр Лысынкевіч).

**— У катэгоры прыхадскіх іншых хораў:**

1. Мешаны хор „Corala Patriarhiei Romane" з Бухарэста (а. Канстанцін Драгустын).

2. Хор духавенства і дырыжораў Беластоцка-Гданьскай епархіі (а. Юры Мацкевіч) і Камерны калектыў „Oktoich" з Вроцлава (а. Рыгор Цэбульскі).

3. Хор Пачаеўскай лаўры з Пачаева (дыякан Антон Ярый), Хор Кіева-Пячэрскай лаўры з Кіева (Барыс Арлоў), Хор менскай духоўнай семінарыі з Жыровіч (а. Мікалай Аўсіевіч).

Вы лучэнне: Хор Хрысціянскай



*Чатыры дні гайнаўляне абступалі сабор Святой Тройцы.*

# ПЕСНЯ ВЕРНАСЦІ

Штораз ахоплівае асаблівае хваляванне, калі спыняюся ля яе партрэта ў літаратурным музеі Янкі Купалы.

Можа, таму, што гэтак блізка спазнала яе, што ўвайшла яна ў маё жыццё якраз тады, калі мне асабліва патрэбна была падтрымка добрай, чулай душы, слова матчынай увагі і адкрыты, шчыры позірк яе вачэй.

Так склаўся лёс, што адна з пляменніц Янкі Купалы — Ніна Рамаңоўская — замяніла мне маці, стаўшы блізкім і родным чалавекам, а Леакадзія Дамінікаўна — сястра паэта — прыняла ў вялікі гурт сваіх унукаў. Мне тады было адзінаццаць год. Увайшоўшы ў гэту сям'ю, я пазнаёмілася яшчэ з адным чалавекам, які на ўсё жыццё пакінуў у душы незабыўны след.

Цёця Уладзя... З партрэта мастака П. Сергіевіча глядзіць на нас стройная маладая дзяўчына ў беларускім нацыянальным адзенні, з ясным прыгожым абліччам, а ў памяці ўжо тая цёця Уладзя, якою я яе ўбедала: немаладога веку, крыху сутулая, паўнаватая, але заўсёды няўтомная, няўрымслівая і рухавая.

Там, дзе была цёця Уладзя, ды яшчэ ў добрым настроі — заўжды панавала вясёлае ажыўленне. Яна была душою таварыства, бяседы, бо любіла і ўмела пажартаваць, цаніла досціп, разумнае, трапнае слова. Відаць, ад бацькоў успрыняла ўсё лепшае, што можа быць у чалавеку: багацце натуры, душэўную чуласць і дабрату.

З нейкай уласцівай толькі ёй цеплынёю і ўвагай сустракала цёця Уладзя тых людзей, якія зазналі ў жыцці гора, траплялі ў бяду. Няхай гэта былі і малазнаёмыя ёй людзі, але яна ўсяляк памагала ім, падтрымлівала, знаходзіла цёплыя словы суцяшэння і парады. Яе клопаты асабіста я адчувала на працягу многіх год. Ніколі не забуду, як па яе парадзе паступала ў педінстытут. І хоць закончыла я школу з медалём, Уладзіслава Францаўна не пусціла мяне адну несці дакументы, пайшла разам са мною. І пакуль я пісала заяву, сядзела побач і сачыла, каб жа ўсё было як след. Маладыя дзяўчаткі з прыёмнай камісіі, магчыма, думалі, што гэта мая маці, і ўсё ўгаварвалі паступаць на фізмат...

Жыла Уладзіслава Францаўна на Омскім завулку 7, на другім паверсе невялічкага двухпавярховага будынка. Яе няхітрую гаспадарку вяла добрая і лагодная цёця Маня — Марыя Дамінікаўна, сястра паэта.

Дзверы гэтага дома заўсёды шырока былі расчынены для ўсіх: знаёмых і незнаёмых, пісьменнікаў і артыстаў, мастакоў і кампазітараў. Усім знаходзілася месца. Гасцінная і добразычлівая гаспадыня — Купаліха, як звалі і ведалі яе ўсе мінчане, — не магла адна сесці за стол, ніколі не выпускала з хаты чалавека, не пачаставаўшы яго, не сказаўшы яму добрага слова. Шмат хто быў у яе дома, але найчасцей, апроч радні, яе бліжэйшыя сяброўкі: Марыя Барысаўна Осіпава, Марыя Канстанцінаўна Хайноўская, Настасся Пятроўна Дзятлоўская, Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка. Даўняя дружба звязвала яе з гэтымі людзьмі. Калі б я ні заходзіла да цёці Уладзі, у яе заўсёды былі госці. Яна саджала мяне за стол і частавала з уласцівою толькі ёй шчодрасцю. На ўсё жыццё запомнілася мне гэтае сталаванне. Магчыма, яшчэ і таму, што рэдка калі абыходзілася без песні. Асабліва яе любімай — „Як на свет радзіўся Янка...". Тады я яшчэ не ведала ні жыцця цёці Уладзі, ні творчасці Купалы і доўга не магла зразумець, чаму так часта спявалі адну і тую ж песню. Але кожны раз, як чула яе, пякучы камячок сціскаў горла. Столькі суму і невыказна тужлівага болю ў гэтай песні! Цёця Уладзя не магла стрымаць слёз. Амаль заўсёды плакала... Толькі пасля я зразумела, чаму такой запаветнай была для яе гэтая песня. І па сённяшні дзень гучыць яна ўва мне і чуецца ціхі, журботны голас цёці Уладзі — яе невымоўная туга па незабыўнаму Янку.



*Уладзіслава Францаўна Луцэвіч у 1934 годзе.*

Гаворачы пра сяброў Уладзіславы Францаўны, нельга не прыгадаць сяброўку яе юнацтва— Канстанцыю Буйло.

Бачыліся яны не так часта (Канстанцыя Антонаўна тады жыла ў Маскве), а таму кожная сустрэча для іх была сапраўдным святам. „Многа душэўнай цеплыні давала яна мне, мая дарагая Уладка", — пісала пазней Канстанцыя Антонаўна. Мне здавалася, што яны нават знешне нечым падобныя. У тыя дні, калі прыязджала Канстанцыя Антонаўна, у цёці Уладзі асабліва многа збіралася людзей. Гаспадыні хапала клопату, але, відаць, самымі дарагімі і шчаслівымі хвілінамі для яе былі тыя, калі яны з Канстанцыяй Антонаўнай заставаліся адны. Ім было што ўспомніць, пра што пагаварыць...

Мне пашчасціла назіраць адну з такіх сустрэч.

У той памятны дзень, як заўсёды, сабраліся госці. Ужо і пасядзелі добра, і нагаварыліся, і паспявалі. Але трэба было ведаць цёцю Уладзю. Гэта быў чалавек настрою. Цяжка цяпер прыгадаць, што паслужыла штуршком — ці то госці пачалі злоўжываць яе гасціннасцю, ці проста ёй хацелася пабыць сам-насам з „Костакаю" як яна любоўна называла сяброўку, — але настрой яе рэзка змяніўся.

Блізкія і сябры ўжо ведалі, што ў такія хвіліны лепш пакінуць яе адну, і хуценька сталі развітвацца. Я таксама падышла да яе, але яна мяне затрымала: „Пачакай, не ідзі!" І я ціхенька адышла ўбок.

тэалагічнай акадэміі ў Варшаве (Уладзімір Валасюк).

**— У катэгорыі свецкіх аматарскіх хораў:**

1. Хор рэспубліканскага палаца культуры прафсаюзаў з Менска (Ларыса Шымановіч)

2. Маладзёжны камерны хор з Сафіі (Людміла Дабрынава).

3. Акадэмічны хор Кракаўскай палітэхнікі „Cantata" (Малгажата Янушэўская).

Вылучэнне: Мешаны хор „Lutnia" з Варшавы (Марцін Лукаш Мазур).

**—У катэгорыі свецкіх прафесійных хораў:**

1. Дзяржаўная капэла імя М.І. Глінкі з Санкт-Пецярбурга (Уладзіслаў Чарнушэнка).

2. Калектыў царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы (а. Юры Шурбак).

3. Камерны хор царкоўнай музыкі „Дойлідства" з Гродна (Наталля Бульцэвіч).

Узнагарода публікі : Хор Кіева-Пячэрскай лаўры.

Узнагарода праваслаўнага прыхода ў Гайнаўцы: Маладзёжны камерны хор з Сафіі.

Узнагарода Праваслаўнага брацтва: дырыжор Дзмітры Ціханюк.

* * *

На заканчэнне XI Фестывалю царкоўнай музыкі адбыліся два гала-канцэрты з удзелам узнагароджаных калектываў. На другі канцэрт у Беластоцкай філармоніі не ўсім удалося дастаць білет. Многія аматары царкоўнай музыкі чакалі ля ўвахода ў філармонію з надзеяй адкупіць у кагосьці лішні білет.

Беластокі гала-канцэрт удастоілі сваёй прысутнасцю архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава і мітрапаліт Беластоцкай рымска-каталіцкай мітраполіі арцыбіскуп Эдвард Кісель. Свецкія ўлады рэгіёна прадстаўлялі Белас-тоцкі ваявода Станіслаў Пруціс і прэзідэнт горада Беластока Лех Руткоўскі.

Перад канцэртам дырэктар Фестывалю і адначасна канферанс'е Мікалай Бушко зачытаў пратакол журы і ўручыў памятныя фестываль-ныя медалі архіепіскапу Саве і арцыбіскупу мітрапаліту Эд-варду Кіселю. Затым голас узяў архіепіскап Сава, які выказаў дырэктару Мікалаю Бушко падзяку за стварэнне гэтага грандыёзнага мерапрыемства і арганізаванне яго штогадовых выпускаў. Апрача кветак уладыка ўручыў яму ікону, свечнік і крыштальны вазон, а хор Духавенства і дырыжораў Беластоцка-Гданьскай епархіі пад кіраўніцтвам а. Юры Мацкевіча праспяваў „Многае лета".

На працягу трох гадзін перад беластоцкай публікай выступі-ла васемнаццаць хораў, якія спявалі выдатныя творы царкоўнай музыкі. Вельмі цёпла слухачы ўспрымалі выступленні замежных хораў, а асабліва хора Румынскага патрыярхату з Бухарэста, які ўпершыню прыехаў на гайнаўскі фестываль.

**(л)**

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**



*Фестываль - гэта таксама гешефт.*

**ВЕСТКІ З СЕМЯНОЎКІ...**

У Семяноўцы адкрылі, трэцюю ужо, прыватную краму. Гэта невялікі драўляны кіёск, пабудаваны на панадворку аднаго з гаспадароў. Уласнікам крамы з'яўляецца жыхар Бандароў. Тут прадаюцца харчовыя прадукты, апрача алкагольных напіткаў.

* * *

З 1 мая г.г. ліквідавалі ў нядзелі, выхадныя суботы і дзяржаўныя святы цягнік, які ад'язджаў у Гайнаўку а 6-ай гадзіне. Найгорш тым, хто працуе на змены акурат у такія дні. Чыгуначная дырэкцыя даказвае, што зрабіла гэта дзеля фінансавай ашчаднасці.

* * *

У пятніцу (15 мая г.г.) у царкву пад вечар прыехаў царкоўны хор з Беларусі, які цудоўна спяваў велікодныя песні. Хор гэты выступаў таксама на Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Людзей сабралася многа. Нават тыя, што не хадзілі ніколі ў царкву, таксама прыйшлі паслухаць гэты хор.

**І З ГАЙНАЎКІ**

У Гайнаўцы пры вуліцы Бучка адкрылі новыя прыватныя прадуктовыя крамы. У адной з іх прадаюць марожанае.

Некалькі крамаў яшчэ не працуе, але праз некалькі дзён іх давядуць да парадку і будуць у іх прадаваць харчовыя і прамысловыя тавары.

У будынку піўнога бара пры вуліцы 11 Лістапада выдзелілі частку памяшкання і адгарадзілі сцяной. Пасля рамонту ў гэтай частцы прадаюць харчтавары, гарэлку і віно.

**АЎРОРА**

---

Стол у гасцінай заставаўся накрытым, але цёця Уладзя накрыла другі, на кухні. Там было цяплей: цэлы дзень палілася пліта, у той час як жылыя пакоі амаль заўсёды былі халодныя і сырыя. Грубка, што выходзіла з калідора ў спальню, ніколі іх не прагравала, ды і другая, у гасцінай, мала давала цяпла.

Прыціхлая, я сядзела ў куточку за сталом, і мне адкрывалася зусім невядомае жыццё гэтых дзвюх немаладых жанчын. Я бачыла, што мая прысутнасць ім не замінае, а, магчыма, наадварот, у нечым дапамагае. Захопленыя гаворкай, яны як бы і забываліся на мяне, былі далёка-далёка ў сваіх успамінах... Яны прыгадвалі Вільню, свае першыя сустрэчы з Купалам, Бядулем, першую імперыялістычную вайну, людскія пакуты і жудасці, якія давялося ўбачыць у бежанстве.

Як я цяпер шкадую, што не магу прыгадаць гэту сустрэчу ва ўсіх падрабязнасцях! Хіба ж магла я, дзевяцікласніца, прадбачыць тады, наколькі дарагім і каштоўным будзе кожнае іх слова, кожны штрышок успамінаў пра Янку Купалу. Як часта мы неашчадны да таго, што маем...

Нарадзілася Уладзіслава Францаўна ў мястэчку Вішнева Ашмянскага павета былой Віленскай губерні. Бацька, Франц Станкевіч, працаваў лесніком, а маці, Эмілія Манэ, настаўніца па адукацыі, вучыла навакольных дзяцей грамаце. Канстанцыя Буйло ўспамінае, што жылі Станкевічы ў маленькім доміку, каля якога быў невялічкі садок, а ў доме „прыгожая жанчына з пасівелымі валасамі, заплеценымі ў тоўстыя доўгія косы, зашпіленыя на галаве ў цяжкі пук, які, здаецца, адцягваў назад яе маленькую стройную галоўку. Вялікія ўважлівыя вочы яе помняцца мне дагэтуль. Яна была маёй настаўніцай, кіраўніком і другам. Стары, вопытны педагог, Эмілія Станкевіч шмат часу аддавала на заняткі са мною. Яна кіравала маёй самаадукацыяй, выбіраючы мне кнігі для чытання, вяла доўгія цікавыя гутаркі, адкрываючы вочы на ўсе з'явы жыцця і асяроддзя, у якім мы знаходзіліся тады. Усё гэта дапамагала мне ў жыцці, і я да апошняга дня з глыбокай любоўю і пашанай успамінаю маю лагодную і строгую, добрую і патрабавальную настаўніцу".

Як пазней жартавала сама Уладзіслава Францаўна, ад маці, француджанкі па нацыянальнасці, яна ўзяла вясёлы і неспакойны характар, а знешняе падабенства — ад бацькі. Пад уплывам маці абрала і жыццёвую сцяжынку. Брат Уладзіславы Францаўны, Вінцэнт Станкевіч, успамінаў, што маладзейшая за яго на пяць год сястра рашыла так, як і яе маці, аддаць свае сілы выхаванню дзяцей. Яна асабліва любіла маладых, добра іх разумела, і не было нічога дзіўнага, што і тыя ўсёй душой гарнуліся да сваёй настаўніцы.

Атрымаўшы адукацыю ў Вільні, а потым скончыўшы двухгадовыя педагагічныя курсы ў Варшаве, Уладзіслава Францаўна пачынае працу ў віленскай дзіцячай установе, падначаленай „обществу попечи-тельства о бедных", а карацей кажучы, — у дзіцячым прытулку. З гэтага часу амаль усё яе жыццё было звязана з дзецьмі.

Бачачы бязрадаснае жыццё дзяцей, яна як магла імкнулася сваёй любоўю і ласкай, шчырасцю і цеплынёю напоўніць іх невясёлае маленства. Яна ведала шмат цікавых казак, вясёлых пацешак, калыханак, якія ахвотна расказвала дзецям. Ёй хацелася, каб гэтыя творы народнай мудрасці вучылі дзяцей дабру, узбагачалі іх пачуцці.

Працуючы ў прытулку, Уладзіслава Францаўна вядзе і сярод працоўнай моладзі актыўную работу ў розных культурна-асветных і нелегальных гуртках, за што двойчы, у 1909—1911 г.г., мясцовыя ўлады аддавалі яе пад суд.

Тут, у Вільні, у беларускай кнігарні на Завальнай 7, адбылася і першая яе сустрэча з Янкам Купалам. „Калі я першы раз убачыла Купалу, — успамінае яна, — ён мне тады чамусьці не спадабаўся. Захапляючыся яго вершамі, я стварыла ў сваім уяўленні нейкі незвычайны вобраз паэта. Сваім сціплым выглядам ён нагадваў звычайнага сялянскага хлопца".

Але гэта было першае ўражанне, а яно, як вядома, часцей за ўсё бывае памылковым. Так атрымалася і на гэты раз.

Пазнаёміўшыся з Янкам Купалам, Змітраком Бядулем, Цёткай, Уладзіслава Станкевіч часта бывае ў рэдакцыі газеты „Наша ніва", прыносіць сюды свае допісы. Часам і проста заходзіць, каб падзяліцца думкамі, уражаннямі, параіцца, а то і памагчы ў чым-небудзь, бо Купала і Бядуля ў той час „жылі больш чым сціпла, звычайна куплялі за 5 кап. „абрэзкаў" у каўбаснай краме і хлеба — гэта была іх вячэра. Заходзячы пасля працы да Купалы і Бядулі, — прыгадвала Уладзіслава Францаўна, — я часам прыносіла з сабою „складчыну" — булкі і бутэрброды, кладучы іх на агульны стол. Купала бурчэў і казаў, што ён не галодны, а Бядуля чырванеў, паўтараючы: „Што гэта ты робіш, Станкевічанка?" Аднак урэшце ўсе мы згодна садзіліся вячэраць".

Дабрата, клопаты аб чалавеку, увага да яго — гэтыя рысы характару былі ўласцівы ёй на працягу ўсяго жыцця.

Шчыры прыхільнік беларускай мовы і літаратуры, яна памагала распаўсюджваць друкаванае слова, разносячы кніжкі па беларускіх вёсках і мястэчках. „У нядзелю ці ў іншы вольны дзень даводзілася пераходзіць з месца на месца, пераносіць беларускія газеты, календары, кніжкі. Часта маім кампаньёнам памочнікам у гэтай справе быў Янка Купала". А ў 1916 годзе Уладзіслава Францаўна назаўсёды звязвае з ім свой лёс.

*(заканчэнне будзе)*
*ТАМАРА ТАРАСАВА*



### ШТО ГЭТА ТАКОЕ?

У Пагадненні аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствам нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча і Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь на 1992—1993 г.г. ёсць такое (Артыкул 7):

„Падборам абітурыентаў на поўны курс навучання ў Рэспубліцы Польшча з **ліку грамадзян Рэспублікі Беларусь польскай нацыянальнасці і ў Беларусі з ліку грамадзян Польшчы беларускага паходжання** (вылучана мною — Я.М.) будуць займацца паўнамоцныя прадстаўнікі абодвух міністэрстваў адукацыі ў адпаведнасці з узаемна ўзгодненымі загадзя квотамі па колькасці.

Бакі прыкладуць намаганні да **паляпшэння праграм навучання польскай мове — як роднай у Рэспубліцы Беларусь і беларускай мове ў Рэспубліцы Польшча,** (вылучана мною — Я.М.) стварыўшы сумесныя кансультацыйныя калектывы" (гл. „Ніва" н-р 15 ад 12 красавіка 1992 г., ст. 8).

Хто тут каго „robi w konia?"

У тым самым нумары „Нівы" на ст. 7 Аляксандр Баршчэўскі (старшыня ГП БГКТ) піша:

„Прыглядаючыся зблізку беларускім гасцям, я пераканаўся, што Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь знаходзіцца ў кампетэнтных руках. Міністр адукацыі Беларусі Віктар Гайсёнак з'яўляецца прафесарам фізікі і дакладна азнаёмлены з праблемамі і патрэбамі беларускай асветы.

З прыемнасцю трэба сказаць, што ў падпісаным пагадненні ўзяты пад увагу многія пастулаты, якія Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта скіравалі ў адрас міністэрстваў адукацыі як Польшчы, так і Беларусі".

Звяртаюся тады да „грамадзяніна Польшчы беларускага паходжання" Аляксандра Баршчэўскага з наступнымі пытаннямі:

— Ці старшыня ГП БГКТ і загадчык Кафедры беларускай філалогіі А. Баршчэўскі прачытаў гэтае пагадненне перад тым, як напісаў прыведзенае вышэй?

— Якія гэта пастулаты ў адрас міністэрстваў адукацыі Польшчы і Беларусі скіравалі БГКТ і Кафедра беларускай філалогіі, што ўзяты пад увагу ў Пагадненні?

**ЯН МОРДАНЬ**

## НАША ПОШТА

„У Вільні адбываецца „круглы стол" з удзелам літоўскіх і беларускіх навукоўцаў, якія разглядаюць правамернасць ужывання некаторых геаграфічных і этнічных назваў. Напрыклад, існуе ў сучаснай мове паўночна-заходніх суседзяў тэрмін *Гудзія (Gudija)*, што абазначае *Беларусь*.

Цікава ведаць, што ў балтамоўнай частцы Сувальшчыны сустракаюцца назвы *Gudabele, Gudaraiscis*, якія ўтвораны ад слова *gudas*, якое значыць тое ж, што *шляхціц, беларус*. А яшчэ цікавей, што тэрміны *шляхціц і беларус* для балтамоўнага насельніцтва з'яўляюцца сінонімамі. Пярэчыць гэта гістарычнаму асвятленню, быццам бы балтамоўнае насельніцтва заваявала беларускія землі".

**Аляксандр Дабчынскі,**
БЕЛАСТОК

# НА ВУЧОБУ Ў БЕЛАРУСЬ

Матуры ў поўным разгары. Яшчэ тыдзень і моладзь, якая атрымае атэстат сталасці, будзе рыхтавацца да экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Наступяць ліхаманкавыя дні падрыхтоўкі і хвалявання, звязаныя з непрадбачлівай будучыняй. Гэта, аднак, не датычыць усіх. Частка беларускай моладзі Беласточчыны ўжо ведае бліжэйшае свае будучае. Яны без экзаменаў будуць прыняты ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. Яны атрымаюць жыллё і салідную стыпендыю. У гэтым годзе іх будзе звыш 50.

Як да гэтага дайшло? Якім чынам беларускім дзеячам удалося, пачынаючы з адной асобы, якая была прынята ў 1988 годзе, дайсці за кароткі час да такога ліку, які робіць уражанне, тым больш, калі супаставім яго з маштабамі нашай нацыянальнай меншасці. Шукаючы адказ на гэтае пытанне, міжвольна вяртаемся да 1989 года, які даў пачатак шматлікім пераменам, таксама ў жыцці нашай меншасці. Па-першае, у радах беларускіх дзеячоў знайшліся новыя людзі, якія ўнеслі ў наша грамадскае жыццё не толькі новыя ідэі, але і зусім новы спосаб думання. Дэмакратызацыя жыцця ў Беларусі дазволіла спачатку звярнуць увагу апазіцыі, а за гэтым і ўрадавых ведамстваў на сапраўдныя патрэбы беларусаў Беласточчыны. Распачаўся этап шматграннага супрацоўніцтва беларускіх арганізацыяў у Польшчы з Бацькаўшчынай.

Асветныя пытанні бадай што самыя важныя ў жыцці кожнага народа. Таму будучы каардынатарам Краёвай управы БДА і адначасова сакратаром ГП БГКТ, большасць свайго часу ў паездках у Беларусь я прысвяціў прыняццю нашай моладзі ў ВНУ. 24 сакавіка 1991 г. падчас сустрэчы з Н.Н. Мазай і Г.Д. Галіноўскім,у прысутнасці апазіцыйных дэпутатаў, было прынята вырашэнне падрыхтоўкі дамоваў паміж ведамствамі Беларусі і беларускімі арганізацыямі ў Польшчы аб вучобе нашай моладзі. Фармальна дагаворы былі падпісаны паміж Радай беларускіх арганізацый і БГКТ у Польшчы ды міністэрствамі Беларусі 23—24 мая 1992 года ў Менску.

На іх падставе былі прыняты 24 асобы ў мінулым годзе. Пачынаючы з лістапада 1991 г. Камісіяй па справах сталых кантактаў з асветнымі ўладамі вядуцца кансультацыі ў справе прыняцця сёлетніх кандыдатаў. У міжчасе паміж міністэрствамі адукацыі Польшчы і Беларусі быў падпісаны дагавор, паводле якога бакі абавязаліся прымаць наступныя квоты студэнтаў: Польшча 90 чалавек — палякаў з Беларусі, а Беларусь 60 чалавек — беларусаў з Польшчы. Гэты міждзяржаўны акт фармальна зацвердзіў нашы двухгадовыя намаганні. Падчас сустрэч з прадстаўнікамі ведамстваў Беларусі ў сакавіку і маі г.г. удалося ўдакладніць колькасці кандыдатаў у паасобныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Міністэрствы аднесліся ў большасці выпадкаў станоўча да прапановаў дырэкцыяў беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы. Будуць разглядацца заяўкі кандыдатаў з па-за беларускіх ліцэяў, асабліва з Беластока. На Беласточчыну прыедзе беларуская дэлегацыя, якая прыме ўдзел у кваліфікацыйных размовах з кандыдатамі.

Завяршаецца чарговы этап, вельмі важны для будучыні нашай нацыянальнай меншасці. Ад таго, як спраўна прадстаўнікам усіх беларускіх асяроддзяў удасца правесці кваліфікацыю і ўладкаваць нашых студэнтаў у вучэльні Беларусі, залежыць лёс будучых выпускнікоў беларускіх ліцэяў і іншых асоб, жадаючых паступіць на вучобу ў Беларусь. Магчымасці вучобы ў нашай краіне з года ў год могуць ускладняцца. Для многіх вучоба ў краіне можа стацца матэрыяльна немагчымай. Беларускія універсітэты стануць для іх адзіным ратункам. Усе мы, свядомыя беларускія дзеячы павінны са свайго боку зрабіць усё, каб нішто не змагло перашкодзіць магчымасці вучобы нашай моладзі. Перш за ўсё ў гэтай справе беларускія арганізацыі павінны праявіць неабходную еднасць, дэкларавaную так часта. Гонару хопіць для ўсіх.

**ВІКТАР СТАХВЮК**

# ТЫМ, КАМУ БОЛЬШ ЗА 12 І МЕНШ ЗА 18

У мінулым годзе ў Маскве пачаў выходзіць двухмоўны, руска-англійскі, міжнародны маладзёжны часопіс „Вместе" — „Together". Гэты акуратна выдадзены, каляровы двухмесячнік накіраваны якраз на чытача ва ўзросце 12—18 год. Яго канцэпцыя такая, што чытачы становяцца і аўтарамі. У часопісе літаратурная і мастацкая творчасць маладых людзей з цэлага свету, лісты ад іх з самым розным зместам. Можна аб сабе расказаць, скажам, кітайскаму хлопцу або прачытаць пра першае каханне амерыканскай дзяўчыны, школьныя клопаты Руфата з Баку ці музычныя зацікаўленні Самі з Хельсінкі.

Вы таксама можаце стаць сааўтарамі часопіса „Вместе" — „Together". Свае лісты пра ўсё — галоўнае, каб цікавыя і небанальныя — высылайце на адрас:

Россия
103001 Москва
ул. Остужева 16-2-3
журнал „Вместе"

Можна пісаць і па-беларуску, і па-польску. Вашы допісы будуць перакладацца на рускую і англійскую мовы. Паспрабуйце. Гэта можа аказацца цікавай прыгодай.

ВМЕСТЕ
Together 1/91



### З РУСКАЙ КУХНІ— НА ЛЕПШЫЯ ЧАСЫ

**Маскоўская салата**

Прадукты: 350 г шчупака ці судака, 2 вараных яйкі, 3 зубкі часнаку, 250 г бульбы, 3 кіслыя агуркі, 1 галоўка салаты, 1/8 літра маянэзу, 2—3 лаўровыя лісткі, 3—4 зерні англійскага зелля (пахучага перцу), соль, перац.

Рыбу ачысціць, зрабіць філе. Палажыць яе ў літр кіпячонай, пасоленай вады. Дадаць перац, англійскае зелле, лаўровы лісток і варыць каля паўгадзіны. Выняць рыбу, калі астыне, парэзаць яе на кавалкі таўшчынёю 1 см.

Салату памыць. Некалькі лісткоў пакінуць для ўпрыгожання, а астатнія парваць пальцамі на малыя кавалкі.

Бульбу памыць, зварыць у лупінах у пасоленай вадзе. Калі астыне — абабраць і нарэзаць кубікамі.

Абабраць яйкі. Палавіну аднаго яйка парэзаць скрылёчкамі, а рэшту пасячы. Часнок абабраць і дакладна расцерці з соллю (1/2 лыжачкі).

Агуркі абабраць, выняць з іх семечкі і нарэзаць скрылёчкамі.

Усе вышэй пададзеныя прадукты асцярожна перамяшаць, пасаліўшы, дадаўшы перцу і заліўшы палавінай маянэзу.

Палажыць у салатніцу, заліць рэштай маянэзу, упрыгожыць скрылёчкамі яйка і лісткамі салаты.

**Руская салата**

Прадукты: 100 г мяса з ракавых шыек альбо мяса крабаў, 30 г філеяў салоных селядцоў, 1 морквіна, 1 сэлер, 1 маленькі бурачок, 5 пячурыц, 2 бульбіны, звараныя ў лупінах, 3 лыжкі зялёнага гарошку, 1 маласольны агурок, 80 г чорных і зялёных алівак, 2 лыжкі каперсаў, 20 г чырвонай ікры, 6 лыжак алею, 1 лыжка віннага воцату, перац, соль, цукар.

Моркву, бурак і сэлер абабраць, памыць і нарэзаць кубікамі. Гародніну гэту, а таксама зялёны гарошак смажыць 4 мінуты ў 2 лыжках разагрэтага алею. Выняць гародніну з тлушчу, пералажыць у каструльку, дадаць 1 лыжку цукру і паўшклянкі вады. Варыць на невялікім агні, пакуль вада не выгатуецца цалкам.

Бульбу абабраць і нарэзаць таксама, як іншую гародніну. Агурок абабраць, выняць з яго семечкі і нарэзаць, як усё. З алівак выняць костачкі і нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі.

Памыць грыбы, ачысціць іх і нарэзаць тоненька, а тады пасаліць.

Мяса ракаў ці крабы нарэзаць дробнымі кавалачкамі. Селядцы нарэзаць тоненькімі палосачкамі.

Усе пададзеныя вышэй прадукты (апрача алівак) дакладна перамяшаць, спырснуць воцатам і алеем. Дадаць каперсы, пасаліць, заправіць перцам і ізноў перамяшаць.

Салату пералажыць у салатніцу, упрыгожыць алівамі і ікрой.

Асобна падаць маянэзны соус.

**ГАСПАДЫНЯ**

Зорка
старонка для дзяцей



*Святочныя пажаданні ўсяго найлепшага ўсім дзеткам ад Аркадзіка Карнілюка, яго бабулі Ганны Будко з К рыв\яцічі, „Зоркі"!*
**Фота Міколы Ваўранюка.**

# ЧЭРВЕНЬ

Вось і лета прыйшло. Новая хваля яркіх фарбаў запоўніла наваколле. Цвіце пад вокнамі беласнежны язмін, ружавеюць уздоўж дарог кусты шыпшыны, стракаты дыван пакрыў лугі. Каласіцца на палях жыта, а ў лесе раскінуў свае прыгожыя ўзорыстыя лісты папаратнік-арляк. У ціхіх затоках сажалак і азёр расцвілі белыя і жоўтыя гарлачыкі.

Калі часам у лесе пад мохам, шукаючы грыбы, вы знойдзеце быццам бы белыя пацеркі - не чапайце іх. Гэта яйкі, адкладзеныя самкай вужа, з якіх хутка вылупіцца патомства. А ў верхніх «паверхах» лесу патомства ўжо заяўляе пра сябе на ўвесь голас. Затое звыклыя спевы птушак амаль сціхаюць. У іх клопат адзін - накарміць дзяцей. Каб у вас хапіла цярпення паназіраць цэлы дзень, напрыклад, за шпакоўняй, то вы заўважылі б, што «рабочы дзень» у шпака амаль удвая большы, чым у нас з вамі. Арнітолагі сведчаць, што за час выкормлівання бацькі-шпакі прыносяць сваім птушанятам адных толькі хрушчоў і іх лічынак больш васьмі тысяч.

*Працяг на стар. 10*



## САКРЭТ

У дзіцячым садзе Вадзік усім даўся ў знакі. Нібы які чорцік камандуе хлопчыкам: штурхні Жору, падфутболь Наташыну шапачку...

Кожны раз, забіраючы Вадзіка, маці пытае:

-Як сёння мой?

-Як заўсёды,- адказвае выхавальніца.

Маці ўздыхае:

-І калі ўжо ты, сынок, возьмеш сябе ў рукі?

Лёгка сказаць: вазьмі сябе ў рукі. А як гэта зрабіць? Ні маці не ведае, ні выхавальніца. Хіба, можа, толькі чараўнік?

Раніцай, ідучы ў сад, Вадзік сустрэў дзеда. Нізенькі, сівы, з кіёчкам, ён нібы з казкі выйшаў.

-Дзядуля, вы чараўнік?- спытаў Вадзік.

-Чараўнік,- пацвердзіў дзед.

-Памажыце мне,- узрадаваўся Вадзік.- Мама просіць, каб я ўзяў сябе ў рукі. А як гэта зрабіць, ніхто не ведае.

-Добра, я навучу цябе. Толькі з адной умовай: трымай усё ў тайне.

Дзед нахіліўся над Вадзікам і ціхенька сказаў, як узяць сябе ў рукі.

Прыйшоў Вадзік у сад, бачыць: на падлозе Наташына шапачка ляжыць. Чорцік тут як тут, падбухторвае: падфутболь. Вадзік замахнуўся нагой, але... успомніў дзеда-чараўніка і спыніўся. Падняў з падлогі шапачку, паклаў у Наташыну шафку.

Паселі дзеці снедаць. Жора пачаў расказваць дзіўны сон. Але Вадзік не стаў слухаць. Ён зноў успомніў дзеда-чараўніка і папрасіў, каб елі моўчкі.

Вечарам Вадзік пахваліўся:

-Мама, я ўжо ўзяў сябе ў рукі!

-Няўжо?- не паверыла маці.- Як жа ты змог, сынок?

-Сакрэт!

Можа, хто-небудзь з вас, сябры, здагадаецца, што сказаў Вадзіку дзед-чараўнік? Цікава ўсё ж, як хлопчыку ўдалося ўзяць сябе ў рукі.

**ІВАН СІНЯЎСКІ**

**ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН**

### АРЭЛІ

Мы да неба паляцелі,
Нас падкінулі арэлі.
Кожны смелы касманаўт
На арэлях пачынаў.
На вяровачным кані
Дасягаць вышыні.
А над намі -
Толькі зоркі.
Кожны кемлівы
І лоўкі,
Кожны дужы,
Кожны ўмелы,-
Гэй, сядайце
На арэлі!



### ЧАЙКА

-Чайка, чайка, што на крылах
Ты над возерам насіла?
-Мары хлопчыкаў аб моры,
Светлых ветразях і зорах.
-Што пад крыламі ў цябе?
-Хвалі срэбныя ў гульбе,
Залатой луской пакрыты
Вёслы, бераг і ракіты.
-Над табою, чайка, што там?
-Ходзяць воблакаў чароды,
Ды плывуць з усіх бакоў
Песні нашых рыбакоў!

### ЦВІЧОК

Хоць маленькі сам цвічок,-
Падстаўляе свой бачок:
-Ты па мне не бойся біць,
Мне ніколі не баліць.
Вострадзюбы я, жалезны,
Як у масла, ў дрэва лезу.
Малаток бяры у рукі
І, як тата, моцна стукай.
Хочаш - заўтра,
Хочаш - сёння
У сцяну мяне загоніш.
Цяжка толькі навічку,
Малому гультайчыку.
Раз ударыць па цвічку,
А другі -
па пальчыку!

### ЖЫРАФА

Падаравалі
Жырафе
каралі!
Як жырафе тут быць,
Дзе каралі насіць?
Шыя доўгая такая,
Дзе павесіць іх -
не знае.

Раіцца з суседзямі.
Кажуць:
-Пасярэдзіне!-
Каралі не ўтрымаліся,
Уніз паапускаліся.

### ЗАЛАТАЯ РЫБКА

Па дарожцы месячнай
Пабягу.
Зорачка маленькая,
Кінь фальгу!
Рыбку, мора светлае,
Берагі
Выражу нажніцамі
З той фальгі.
Рыбка залатая
Ў моры
Чалавечай моваю
Загаворыць.
Над вадою зорачкай
Мільгане
І раскажа казачку
Пра мяне.

# ВОПЛЕСКІ МАЛЫМ СПЕВАКАМ

16 мая адбыўся ў Бельску-Падляшскім фінальны конкурс „Беларуская песня-92" для школьнай моладзі. На сцэне Бельскага дома культуры выступіла агулам 20 выканаўцаў - былі сярод іх калектывы, невялікія групы (дзве-тры асобы) і салісты. Розны быў таксама і ўзрост выканаўцаў - ад самых малых да крыху старэйшых (апошнія класы пачатковай школы).

Вялікае прадстаўніцтва на фінальны конкурс прыслалі пачатковыя школы з Чыжоў, Махнатага і Бельска-Падляшскага. Вучні з гэтых школ выступалі сола, у дуэтах, тэрцэтах, квартэтах ці яшчэ большых гуртах. Апрача іх у Бельску-Падляшскім выступілі яшчэ вучні з пачатковых школ з Дубіч-Царкоўных, Нарвы, Васількова, Кленік, Беластока, Гайнаўкі і Дубяжына.

Адны спевакі выступалі без акампанементу, іншым жа падыйгрывалі на акардэоне, гітары, скрыпцы або, як у выпадку бельскага калектыву „Жучкі", вучні выступалі са сваім інструментарыумам. Самымі папулярнымі песнямі аказаліся «Колькі ў небе зор», «Беларусачка», «Купалінка», «У садзе гуляла» - гэтыя песні паўтараліся ў выкананні вучняў з розных школ

Нялёгкую задачу мела камісія „Беларускай песні-92", якая ацэньвала выступленні малых спевакоў і прызнавала ім месцы. Адны песні былі выканаы па-фальклорнаму, гэта значыць так як бабулі іх спявалі, іншыя ж мелі больш сучасную форму - усё гэта камісія мусіла з сабою пагадзіць. У выніку нарады камісія падзяліла ўсіх выканаўцаў на тры групы дый ў гэтых групах прызнала ім месцы.

**Першая група - калектывы:**

1. Калектыў „Жучкі" з Бельска-Падляшскага.
2. Дзявочы калектыў з Пачатковай школы № 3 у Бельску-Падляшскім.

Трэцяга месца ў гэтай групе камісія не прызнала.

**Другая група - малыя вакальныя калектывы:**

1. Дуэт з Дубяжына і квартэт з Чыжоў.
2. Тэрцэт з Нарвы.
3. Дуэт з Махнатага.




*Выступае квартэт з Дубіч–Царкоўных.* **Фота А. Максімюка.**

**Трэцяя група - салісты:**

1. Марта Драль з Васількова і Кася Сегень з Бельска-Падляшскага.
2. Аркадзь Якімюк з Чыжоў.
3. Адам Трашчотка з Махнатага.

Камісія фінальнага конкурсу „Беларуская песня-92" для школьнай моладзі прызнала таксама два вылучэнні: для Ані Місяюк з Беластока і Асі Масайла з Гайнаўкі.

На конкурсе ў Бельску-Падляшскім прысутнічаў Віктар Стахвюк, які ад імя сваее фірмы „Эльвімэкс" прызнаў чатыры ўзнагароды (11-дзённы побыт у Менску). Атрымалі іх: Марта Драль (поўны побыт), Кася Сегень, дуэт Юля Карзуновіч і Аркадзь Якімюк (фірма фінансуе ім палову коштаў экскурсіі).

На заканчэнне трэба заўважыць, што ў гэтым годзе на фінальным конкурсе «Беларуская песня» не было канцэрту лаўрэатаў. Што ж, усім нам штораз цяжэй жывецца, а таксама і цяжэй арганізаваць такія мерапрыемствы як «Беларуская песня». Інструктары музыкі казалі нават, што праз нейкі час школы могуць спыніць навучанне гэтага прадмету. Тым больш трэба тут падкрэсліць ролю настаўнікаў і інструктараў, якія рыхтавалі моладзь да конкурсу. Трэба падкрэсліць і жаданне саміх вучняў спяваць беларускія песні, бо ў сваее выступленні малыя спевакі ўлажылі шмат-шмат сэрца. І так трэба.

Хай растуць нам маленькія Данчыкі, маленькія зорачкі беларускай песні!

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# БЕЛАРУСКІ СКАНСЭН, АБО МУЗЕЙ НАД ПЦІЧЧУ

На Пцічы, за 12 кіламетраў ад Менска, каля Брэсцкай шашы, утворана Воўчкавіцкае вадасховішча. На поўнач ад яго, паміж вёскамі Строчыца і Азярцо, размясціўся музей пад адкрытым небам, або скансэн. Афіцыйная назва - Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

Што такое скансэн? У 1891 годзе ў Стакгольме пад кіраўніцтвам вучонага і педагога Артура Хацэліуса быў пабудаваны парк-музей «Скансэн». Месца, адведзенае пад музей, на той час было зрыта акопамі (па-шведску - скансэнамі). Яно і дало назву музею, у які былі звезены сялянскія драўляныя будынкі. Зараз музеі тыпу «скансэн» існуюць у многіх краінах свету. У Еўропе іх некалькі соцень.

Ідэя стварэння падобнага беларускага музея была выказана нашым мастаком Фердынандам Рушчыцам яшчэ ў пачатку XX стагоддзя. Рашэнне аб стварэнні беларускага скансэна прынята Урадам БССР у снежні 1976 года. На пагорках у вярхоўях Пцічы ў 1981 годзе на плошчы звыш 100 гектараў пачалося будаўніцтва.

Беларускія вучоныя вылучаюць на тэрыторыі Беларусі шэсць этнаграфічных рэгіёнаў: Цэнтральная Беларусь, Панямонне, Паазер'е, Падняпроўе, Усходняе Палессе, Заходняе Палессе. Кожны рэгіён будзе прадстаўлены ў музеі невялікай вёсачкай у 5-6 сяліб канца XIX - пачатку XX стагоддзя. Апроч таго, мяркуецца паказаць і мястэчка як своеасаблівае паселішча. Ужо збудаваны тры сектары: Цэнтральная Беларусь, Падняпроўе і Паазер'е. У кожным будынку - старадаўнія рэчы, якімі карысталіся нашы дзяды. У хатах і гаспадарчых памяшканнях адноўлены інтэр'еры, што існавалі калісьці. Наогул, у музеі можна пазанёміцца з тым, як жылі і чым займаліся нашы прадзеды.

**СЫМОН БАРЫС**



# ЧЭРВЕНЬ

*Працяг са стар. 9*

Пройдзе тыдні са два, і птушыныя сем'і адправяцца на сваё першае сумеснае паляванне.

У чэрвені павялічваюцца сем'і і ў іншых прадстаўнікоў жывёльнага свету. Калі каму давядзецца пабываць у гэты час у запаведніку, ён убачыць маленькіх зубранят. Цікава, што ў статку яны трымаюцца сваім дзіцячым гуртам.

У чэрвені шмат цяпла. 22 чэрвеня - дзень летняга сонцастаяння. Самы доўгі дзень і самая кароткая ноч. Пачынаецца астранамічнае лета. Праз пяць дзён па хвілінцы ноч пачне адваёўваць сабе час. У народзе кажуць: сонца павярнула на зіму, а лета - на гарачыню.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК







# УШЭСЦЕ (УЗНЯСЕННЕ ГАСПОДНЕ)

Свята прысвечана ўспаміну таго, як на саракавы дзень пасля Вялікадня Ісус Хрыстос узнёсся на неба. У перыяд ад Уваскрэсення да Узнясення Хрыстос з'яўляўся вучням - навучаў іх ісцінам Царства Нябеснага. На Ушэсце гаспадыні абавязкова павінны былі пячы бліны: «Трэба Хрысту напекчы ануч, каб было ў што абувацца! Абуецца і пойдзе ўжо ад нас па небу!» Пасля гэтага дня дзяўчаты пераставалі спяваць вяснянкі. Па тым, як згадваецца Ушэсце ў песнях, можна адчуць, як няспынна ідзе рух у жывой прыродзе: «Святы Ушэснік - жыта выплываець... жытцо пучком, каленцам», «Святы Шоснік колас точыць... з шастом ходзіць, межы раўнуець».

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Колькі груш у кошыку?**

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА ЛЕКСІКАЛОГІЯ.**

**11. Германізмы** — працяг.

Большасць германізмаў прыйшла ў беларускую мову праз рускую і часткова праз польскую ў XIX—XX ст.ст. Гэта перад усім тэрміны, якія адносяцца да:

— тэхнікі і будаўніцтва: *амартызацыя, брук, кафель, кронцыркуль, сталь, шайба, шына, шланг, штатыў*;

— ваеннай справы: *афіцэр, вермахт, гаўбіца, лагер, маўзер, фельдмаршал, фронт, штаб, штурм*;

— грамадска-палітычных і сацыяльна-эканамічных паняццяў: *бургамістр, гандаль, паліцыя*;

— мастацтва і музыкі: *актэт, арфа, балетмайстар, гастралёр, клавіятура, туш, феерверк, хормайстар*;

— спорту: *гантэлі, фехтаваць, штанга*;

— друкарскай справы: *друк, дэкель, форзац, шрыфт*;

— сталярскай справы: *шпунтубель, шэрхебель*;

— горнай справы: *шахта, шыхта, штольня;*

— хіміі: *вісмут, нікель, цынк*;

— медыцыны: *аспірын, бінт*;

— прыроды: *дзюна, павіян;*

— кулінарыі: *бутэрброд, вафля, паштэт, фрыкадэлі.*1

Найбольш істотныя прыкметы слоў нямецкага паходжання — гэта:

— спалучэнні **шп, шт** у пачатку слоў: *шпіталь, штыль;*

— спалучэнні **хт, шт, эй** у сярэдзіне слоў: *шыхта, бакштэйн, прэйскурант*;

— пачатковае **фельд** і канцавое **майстар** у складаных словах: *фельдмаршал, гросмайстар.*2

Нямецкая мова выконвала таксама функцыю пасрэдніцы паміж славянскімі і іншымі мовамі. Праз нямецкую мову ва ўсходнеславянскія, у тым ліку ў беларускую, былі запазычаны словы з некаторых другіх моў, напр.:

— з лацінскай: *аўтарытэт, адвакат, ад'ютант, акрэдытыў, аўкцыён, турбіна, фальш, фронт*;

— з французскай: *адрасант, адрасат, бамбардзір, гарнітур, ордэн, раса, труна, турнір*;

— з італьянскай: *банкрут, панцыр*;

— з грэчаскай: *біржа*;

— з арабскай: *торф.*3

———————————

1 Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 168—169; В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія; Фразеалогія, Мінск 1984, с. 60—61.

2 В.П. Красней, ..., с. 61.

3 Курс..., с. 169.

# ГІТ-ПАРАД „ПАД ЗНАКАМ ПАГОНІ"

Неўзабаве ў беларускай радыёпраграме з'явіцца новая маладзёжная перадача „Гіт-парад у праграме „Пад знакам пагоні". Вы зможаце паслухаць у ёй і выбраць найбольш папулярныя песні і гурты з Беларусі і Беласточчыны. Першыя дваццаць песень прапануюць журналісты беларускай праграмы супольна з рэдакцыямі „Нівы" і „Часопіса". 10 песень вы пачуеце ў музычнай форме, наступныя 10 будуць чакаць у чарзе і будзе можна паслухаць пра іх у інфармацыях. У кожным новым „Гіт-парадзе" на месца 5 апошніх увойдуць 5 найлепшых з „пачакальні". Актуальны „Гіт-парад" будзе друкавацца ў кожнай „Ніве". Заахвочваем усіх чытачоў да супольнай забавы. Вось нашыя прапановы:

1. **Уліс** — Пляц Францыска
2. **Мясцовы час** — Спіць краіна белая
3. **Грамада** — Кухарка
4. **Мроя** — Рок-музыкант
5. **Уліс** — Краіна доўгай белай хмары
6. **Рокіс** — Ноч свята
7. **Рэй** — Панарама трыццаць
8. **Кадэцкі корпус** — Апошні бой Врублеўскага
9. **Альбаросіка** — Дробна пташачка
10. **Грамада** — У садзе гуляла

11. **Данчык** — На вуліцы мокра
12. **Муха** — Муха
13. **Тутэйшыя хлопцы** — У музеі
14. **Рэй** — Лебядзіны крык
15. **Мроя** — Ён яшчэ вернецца
16. **Новае неба** — Чарга
17. **Ананім** — Васілёчкі
18. **Дубіны** — Ціхі вечар
19. **Альбаросіка** — Пад зялёным дубам
20. **Бонда** — На станцыі Койданава

Тэлефануйце ў Беластоцкае радыё ў кожную пятніцу ад гадз. 8 да 16 па тэл. 26272

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Даражэнькі Астроне! Сёння прыснілася — і сёння пішу. Адразу хачу табе сказаць: мо на вока гэты сон быў вельмі страшны, але я ніякага жаху не адчувала.

А было так. Быццам бы нейкі сход адбываўся на нейкай фабрыцы. Што за фабрыка — не ведаю, мая ж прафесія надта далёкая ад прадукцыі. І раптам узнікае пажар. Цэлыя клубы агню, але нам гэты агонь не перашкаджае. І ўжо здаецца, што я быццам тут адпачываю. Ёсць і мая дачка з мужам. Хочам уцякаць з гэтага вялізнага цэха. Я пачынаю збіраць свае рэчы. Не магу ніяк вырашыць, якія з іх найважнейшыя. Нешта з іх схапіла, не памятаю ўжо, што. І мы пачалі ўцякаць. Бяжымо нейкімі калідорамі. Ужо ўцякаюць іншыя рабочыя, апранутыя ў рабочую вопратку. Мы выбеглі на вуліцу. Я ізноў нешта затрымалася, няўпэўненая, ці ўзяла якраз тыя рэчы, якія былі найбольш істотныя. Тым часам зяць і дачка пабеглі далей, а я ад іх адстала. Я бачу іх у канцы вуліцы, але не магу дагнаць. Раптам бачу чатырох паліцэйскіх, рослых, у мундзірах колеру хакі. Яны спыняюць мяне. Падводзяць да крамы з цукеркамі і паказваюць на выбітую шыбіну там. Я зразумела, што з прычыны пажару людзі пачалі ўжо рабаваць крамы, хаця была ноч. Я кажу паліцэйскім, што я гэтага не зрабіла, я не рабую, а ўцякаю ад пажару, які здарыўся на фабрыцы. І прачнулася. Што гэта такое?

**Алена**

Алена! Твой сон мог бы абазначаць хваробу, звязаную з прастудай, бо быў пажар. Ты ад яго ўцякала і гэта магло б дадаткова сведчыць пра нейкае небяспечнае падарожжа. А што прысніліся паліцэйскія — дык можаш спадзявацца крыўды, абразы і непрыемнасці.

Але! Думаю ўсё-такі, што ты глядаеш занадта многа тэлебачанне. У апошні час шмат паказваецца пажараў фабрык, забойстваў людзей, а нават паліцэйскіх. Узяўшы ўсё гэта пад увагу, можна меркаваць, што гэты твой сон быў згусткам рэмінісцэнцый з бачанага і чутага.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Я аўдавела, калі мне было 25 гадоў. Вельмі проста ўсё сталася. Малады, здаровы чалавек быў. Працаваў інжынерам. Пазванілі з працы: ваш муж памёр на інфаркт. Засталася я адна-аднюсенькая з дваіма дзецьмі на руках. Не думала, каб выйсці замуж. Думала толькі аб адным: каб выхаваць дзяцей на людзей. Каб ніколі яны не адчулі, што не маюць бацькі.

Я працавала па 12 гадзін у дзень, каб пракарміць сям'ю. Мушу прызнацца, што бацькі, якія жылі на вёсцы, мне тады вельмі дапамаглі. Што б я зрабіла без іх — не ўяўляю.

Бывала па-рознаму. Часамі я трапляла на нейкага мужчыну, які быў мне па душы. Не было, аднак, такога, якога я магла б заакцэптаваць як бацьку маіх дзяцей. У сорак гадоў я махнула на мужчын рукою: відаць, такі мой лёс, падумала. Але ў сорак пяць на маім гарызонце паявіўся мужчына, за якога я рашыла выйсці замуж. Дзеці былі ўжо жанатыя і замужнія, жылі асобна. Дзеці былі „за". Мужчына гэты абсыпаў падарункамі мяне, дзяцей і ўнукаў. Часта бываў за граніцай і прывозіў адтуль мноства розных рэчаў. Усюды мяне вазіў, дбаў як пра нейкі крышталь.

Баялася я толькі аднаго: чалавек гэты быў старым кавалерам. Ну, а вядома ж, што чалавек мог быць дзіўны. І хутка я ў гэтым пераканалася.

Захварэла яго немаладая ўжо маці. Шалеў. Бегаў, даставаў розныя лекі, сцягваў да яе дахаты розных дактароў і медсясцёр. Купаў яе, нарэшце перастаў вяртацца нанач, застаючыся ў маці. Божа, ён нават яе падціраў. Я ўжо аднойчы не вытрывала: „Мама, — кажу, — няўжо вы самі не можаце падцерціся?! Вам жа і зручней, і руху крыху трэба. А сыну ж вашаму цяжка там трапіць". Свякруха абразілася і сказала, што мяне не хоча больш бачыць.

І вось я ўжо два тыдні сяджу адна ў хаце. Вару ежу, а мой муж толькі прыязджае на момант, каб узяць яе і завезці дарагой маме.

Не магу ўжо гэтага пераносіць. Як знервуюся, пайду да дачкі. Ці ён не ведаў, што і жонка мае на мужа нейкае правa?

**Ядвіга**

Ядвіга! Усе будуць старымі і невядома таксама, які лёс сустрэне цябе на старыя гады. Чалавек стары і хворы вельмі падатны на розныя крыўды, тым больш, што столькі гадоў твой муж быў толькі яе сынком. А тут раптам з'явілася пані, якая ўзурпуе сабе права на **яе** сына. Будзь разумнейшая і даруй старой. Ёй жа ўжо, напэўна, няшмат засталося. Ты і так у лепшай сітуацыі, бо дапамогу даеш, а яна яе просіць. Перачакай. Мо хвароба хутка міне, а мо гэта і апошнія дні тваёй свякрухі. Ведаеш, каб пасля не шкадаваць сваіх учынкаў.

**СЭРЦАЙКА**






**СМЕХУ АД ВУХА ДА ВУХА**

На выдавецкім рынку з'явіўся ўжо чарговы, пяты нумар сатырычна-гумарыстычнага часопіса „Ад вуха да вуха". Выдавецтва „Пагранічча", уласнасцю якога з'яўляецца памянёны штомесячнік, прыйшла да вываду, што бяды і клопатаў наштодзень як завязаць і вырашыло ўнесці ў шэрыя будні крыху гумару і смеху. Тым больш, што з рынку пачалі знікаць сатырычныя часопісы. А нішто не з'яўляецца больш балючым за смех. Ну і смеймася! На 24 старонках у каляровай кардоннай вокладцы, апрача анекдотаў, якія з'яўляюцца жывым адлюстраваннем штодзённасці і глупстваў, якія з сабой яна нясе, памяшчаюцца і сатырычныя тэксты, і эратычнага тыпу вершы знаных нашых і замежных аўтараў, якія дагэтуль з-за цэнзуры не друкаваліся. Ёсць і матрыманіяльны куточак, дзе можна даць аб'яву пра ўсё, нават пра самыя інтымныя рэчы. Часопіс багата ілюстраваны вядомымі мастакамі. Ну і можна выйграць узнагароду. Для тых, хто цікавіцца развязваннем крыжаванак кожны месяц выдзелена на ўзнагароды 10 мільёнаў злотых. Тыраж штомесячніка — 50 тысяч і прадаецца ён ва ўсёй краіне. Так што і аб'яву ў ім змясціць варта. За адзіныя 5500 зл. можна смяяцца ад вуха да вуха.

Пытайце ў кіёсках пра новы штомесячнік! Не пашкадуеце!

# АНЕКДОТЫ

У зубнога лекара.
— Чаму гэта вы так павесялелі, доктар? — пытае медсястра.
— Зараз увойдзе аўтаінспектар, які нядаўна аштрафаваў мяне.

* * *

— Кажуць, ты навучыў сваю жонку гуляць у карты?
— Навучыў і, ведаеш, добра зрабіў. У суботу я выйграў у яе палавіну сваёй зарплаты.

* * *

Кастусь заснуў у час перадачы па тэлевізару футбольнага матча. Жонка будзіць яго:
— Уставай, ужо адзінаццаць.
— У чыю карысць? — закрычаў у страху Кастусь.

* * *

— Нешта ты вельмі многа ездзіш на сваёй аўтамашыне, — здзіўляецца сябар Сцяпана.
— Што зробіш! — адказвае Сцяпан. — Доктар прыпісаў мне многа рухацца.

* * *

— Тата, а хто гэты дзядзька, што стаіць на скрыжаванні? — пытае Віцька.
— Рэгуліроўшчык.
— А чаму ён рукамі размахвае?
— Паказвае, куды каму трэба ехаць.
— Адкуль жа ён ведае гэта?

* * *

На чыгуначнай станцыі паліцыянт затрымаў двух кішэнных злодзеяў і пачаў допытваць аднаго:
— Дзе ты жывеш?
— Мой дом — вагон, — адказаў той.
— А ты? — звярнуўся ён да другога.
— А я ў яго на кватэры.

* * *

Сядзіць бабуля каля тэлевізара і глядзіць футбол. Убягае ўнук у хату і пытае:
— Бабуся, ну што, забілі?..
— Ды не ведаю, ці каго забілі, але многія падалі.

* * *

— Муж, хутка ў нашай маленькай хаце паявіцца трэцяя душа.
— Любая мая, няўжо?
— Так! Мая мама разводзіцца з бацькам і будзе ў нас жыць.

**Падборку зрабіла**

**АСЯ СНЯЖЫНКА**

# НІЎКА

Мал. Ігара Варашкевіча.

## ПРЫПЕЎКІ

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

Я на Сталіна партрэт
Кожны дзень любуюся.
Вывеў ён мяне на свет —
Я цяпер красуюся.

* * *

Хвалі б'юцца ў берагі
Рэчанькі бурлівае,
Дзякуй, Сталін дарагі
За жыццё шчаслівае.

* * *

У калгасе, у калгасе
Усё як ёсць збываецца,
У калгасе шчасце ўгору
Возам падымаецца.

* * *

Вецер вее, сонца грэе,
Я на ганачку стаю.
Усю калгасную маёмасць
Берагу я, як сваю.

* * *

Многа зорачак на небе —
Адна зорачка ясней.
Многа ёсць дзяржаў на свеце —
СССР за ўсіх мацней.

* * *

Мы пра Сталіна спяваем,
Славу Сталіну пяём.
Мы творцу закона-шчасця
Прывітанне шчыра шлём.

**(„Вожык")**

# СКЛАДАНАЯ СІТУАЦЫЯ

На пасяджэнні рэдкалегіі новага часопіса „Тэатральны Хамутоўск" вырашалася самае сур'ёзнае пытанне: якім чынам і дзе шукаць яшчэ хоць аднаго ці двух падпісчыкаў? Справа ў тым, што ў самім Хамутоўску ўсяго адзін прафесіянальны і некалькі самадзейных народных тэатраў, персанал якіх чамусьці не выстраіўся ў чаргу, каб падпісацца на гэта сваё выданне, хоць менавіта яны штурмавалі мясцовыя ўлады: маўляў, усе грамадзяне маюць свае прафесійныя друкаваныя органы, а мы, артысты, што — рабыя? У мэрыі доўга ламалі галовы, дзе ўзяць грошай, каб задаволіць патрабаванні работнікаў сцэны. Нарэшце, выйсце было знойдзена: закрылі адзіны ў горадзе дзіцячы кінатэатр „Піянер Хамутоўска" на той падставе, што піянерская арганізацыя больш не існуе, здалі памяшканне ў арэнду кааператыву і на выручаныя сродкі адкрылі новы часопіс.

А калі падлічылі вынікі падпіскі на часопіс, дык выявілася, што на яго падпісаліся толькі члены рэдкалегіі новага выдання.

— Затое мы ўсіх сваіх падпісчыкаў ведаем у твар, — горка пажартаваў з такой нагоды галоўны рэдактар часопіса.

Складаная сітуацыя, у якую трапіла новае выданне, і сабрала членаў рэдакцыйнай калегіі. Пасля шматгадзінных дэбатаў вырашана было членамі рэдкалегіі прызначыць дырэктара прафесійнага тэатра і начальніка ўпраўлення культуры. Ёсць спадзяванне, што падпіска на „Тэатральны Хамутоўск" узрасце як мінімум на два экземпляры, ці ажно на 20 працэнтаў.

**„Вожык", н-р 6/92**

# РАЗЕТКА НА „Г"

**Управа:** 1) „Ніва", 2) займаецца пустым заняткам, 3) збан без ручкі, 4) расліна на кашу, 5) мадэль зямнога шара, 6) група людзей, аб'яднаная супольным інтарэсам, 7) заядлая сварка, 8) горад у Беларусі.

**Улева:** 1) мноства галасоў, бязладны шум, 2) сярод антылоп (хутка бегае), 3) бедната, галеча, 4) палоска зямлі з градкамі, 5) з Афінамі, 6) можна яе драць і заткнуць або ўзяць за яе, 7) вялікі круглы плод на паўзучым сцябле, 8) колькасць яды або пітва за раз.

**Ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 16 н-ра. Управа:** канцэрт, жанчына, пятніца, пабыўка, тарнада, насенне, камінар, гарэлка. **Улева:** карэнне, жанглёр, пантэра, патрыёт, табліца, Нараўка, кіслата, гамонка.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.

1 2 3 4 5 6 7 8


# Ніва

**„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33**
**Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.**

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał upływa 20 maja 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044—1195—139—11.